*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*

ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | №13 (225) | 29 сакавіка 1995 г. | Кошт — 100 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **ТОЛЬКІ ТРЫ ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ З 31 ПРАЙШЛІ ПЕРАРЭГІСТРАЦЫЮ Ў МІНЮСЦЕ НАШАЙ КРАІНЫ.** Яшчэ 7 зарэгістраваны пасля ўступлення ў сілу новага Закона аб палітычных партыях.

❍ ***СЁЛЕТА СПАЎНЯЕЦЦА 585 ГАДОЎ З ДНЯ РАЗГРОМУ НЯМЕЦКІХ РЫЦАРАЎ У ГРУНВАЛЬДСКАЙ БІТВЕ І 645 ГАДОЎ — З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АДНАГО З ЯЕ ГЕРОЯЎ — ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВІТАЎТА.*** *Для падрыхтоўкі правядзення мерапрыемстваў па святкаванню гэтых дат шэраг грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў стварылі арганізацыйны камітэт. На яго першым пасяджэнні была абмеркавана канцэпцыя маючага адбыцца свята і акрэслены галоўныя мэты гэтага мерапрыемства.*

❍ **У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**, у якім гаворыцца: «За публікацыю матэрыялу пад рубрыкай «Пісьмо да Прэзідэнта» неўстаноўленага аўтара ў «Народнай газеце» за 10 сакавіка 1995 г., што заклікае да насілля і грамадзянскага процістаяння, вызваліць ад пасады галоўнага рэдактара газеты Сярэдзіча Іосіфа Паўлавіча». Так што не пішыце пісьмаў Прэзідэнту!

❍ ***ГАВОРАЧЫ ПРА СВАЁ ВЫЗВАЛЕННЕ АД ПАСАДЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ», ІОСІФ СЯРЭДЗІЧ, У ПРЫВАТНАСЦІ, СКАЗАЎ:*** *«...У мяне застаецца ўласная думка наконт таго, што адбылося. Я лічу, што публікацыя «Пісьма да Прэзідэнта» — толькі падстава, каб выдаць такі ўказ. Не было б гэтага артыкула — знайшоўся б іншы. Сёння Прэзідэнту проста спатрэбілася нейтралізаваць пазіцыю газеты».*

❍ **АПОШНІМ ЧАСАМ У ДРУКУ ШМАТ ВЫСТУПЛЕННЯЎ НАКОНТ ДЗЯРЖАЎНАЙ СІМВОЛІКІ.** У адным з нядаўніх нумароў газеты «Звязда» выступіў Юры Хадыка, дзе ён піша: «У Францыі даўно няма праблемы калабарацыяністаў, у Італіі і Германіі — фашыстаў. «Рэабілітаваны» нацыяналісты ў Прыбалтыцы, Украіне і нават Расіі. Не чутно ў Дзяржаўнай думе РФ людзей, якія б зневажалі расійскі трыколер ці двухгаловага арла, хаця гэта былі сімвалы Расійскай вызваленчай арміі генерала Уласава. Не патрабуюць украінскі прэзідэнт і парламент рэферэндуму па пытаннях дзяржаўнай мовы, сцяга і герба. І толькі Беларусь — апошні асколак камуністычнага «вертэпа» — дэманструе свету сваё малапрывабнае аблічча». Зразумела, што лягчэй за ўсё праводзіць рэферэндумы па мове, сімваліцы. Але ці стане пасля іх лепей жыць беларускі народ.

❍ ***У ДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ ІНФАРМАЦЫЯ,*** *што на Менскім картаграфічным прадпрыемстве знаходзіцца макет вучэбнай карты, якая асвятляе падзеі беларускай гісторыі XVI стагоддзя. Прадстаўнікі Міністэрства абароны катэгарычна не згодны з тым, што на гістарычнай карце адзначана і Аршанская бітва 1514 года. Гісторыкі ў пагонах прапануюць у гэтым месцы карты проста пакінуць «белую пляму», каб не азмрачаць «тысячагадовую дружбу беларускага і рускага народаў».*

❍ **У МЕНСКІМ ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛАСЯ ЮБІЛЕЙНАЯ ВЕЧАРЫНА**, прысвечаная 100-годдзю класіка ўкраінскай літаратуры, паэта Максіма Рыльскага.

❍ ***ПЕРШЫ НАМЕСНІК МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ В. ЦАПКАЛА ЗАЯВІЎ,*** *што Японія ў бліжэйшай будучыні мае намер выдзеліць Беларусі крэдыт у памеры 60 мільёнаў долараў.*

**ФЕНАМЕНАЛЬНАЕ МАЙСТЭРСТВА ЯКУБА КОЛАСА.** Стар. 6.

## Нам пяць гадоў

Многія з нас тады яшчэ не ведалі, што свой жыццёвы і журналісцкі лёс звяжуць з «Нашым словам». Увогуле, падпісваючы ў свет першы нумар бюлетэня рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы, старшыня рэдакцыйнай калегіі Ніл Сымонавіч Гілевіч мог толькі спадзявацца, што выданне разгорнецца ў самастойную газету-штотыднёвік, зойме пэўную сацыяльна-культурную нішу, займее сталых падпісчыкаў, адданых сяброў. Рэдкалегія ў прадмове да першага нумара магла цвёрда адно адзначыць: выхад у свет «Нашага слова» — «сціплае пацверджанне таго, што працэс вяртання законных правоў роднаму слову на Беларусі патроху набірае сілу». А вось «ці пачуецца наша мова на сваёй зямлі гаспадыняй», — на гэта адказ быў такі: «Толькі тады, калі клопат пра яе лёс стане ўсенародным». Найпершым жа і найгалоўнейшым клопатам выдання будзе — усімі сіламі садзейнічаць такой хадзе падзей, каб беларуская мова «вярнула сабе страчанае пад ударамі лёсу становішча дзяржаўнай».

Цяпер, дзякаваць Богу і настойлівасці ўсіх лепшых патрыятычных сіл Беларусі, тое адбылося — дзяржаўнасць беларускай мовы фармальна замацавана асобным нават, 17-м артыкулам Канстытуцыі незалежнай краіны. Але працы наперадзе — каб яна, наша мова, займела ўсеагульны прэстыж, каб вольна і смела гучала на зямлі яе вялікага стваральніка — беларускага народа, — працы такой яшчэ многа.

Сённяшні калектыў рэдакцыі «Нашага слова», падхапіўшы эстафету пачынальнікаў, усімі сіламі імкнецца захоўваць і развіваць традыцыю падтрымліваць самыя цесныя сувязі са сваімі чытачамі, быць ім патрэбнымі, даваць заўсёды праўдзівую і поўную інфармацыю пра духоўнае жыццё суайчыннікаў, годна адстойваць высокагуманныя дэмакратычныя і патрыятычныя каштоўнасці беларускага грамадства.

Чым былі для нас гэтыя пяць гадоў? Лепей за ўсё пра гэта расказваюць старонкі «Нашага слова». Адно можна зазначыць з усёй адказнасцю: мы, як маглі, змагаліся за дабрыню, чалавечнасць, мы заўсёды былі разам з беларускім народам. Так будзе і надалей. Дзякуем усім, хто нас падтрымлівае!

**Эрнэст ЯЛУГІН, галоўны рэдактар «НС».**

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## «НАШАМУ СЛОВУ»

Да яго пятых угодкаў

Цябе вітаю, «Наша слова», —
Кахання палкага дзіця,
Што ў свет, узрушаны вяснова,
Прыйшло для годнага жыцця,
Прыйшло, каб скінуць сон змярцвення
З народа нашага ўсяго
І ў весніх далях Адраджэння
Стаць знічам-светачам яго.

І вам, сябры, што пачыналі
Тарыць яму дарогу-шлях
І незабыўны міг спазналі,
Калі, нібыта крыллем птах,
Яно ў трымклівых вашых пальцах
Зашалясцела ўпершыню
І сонцам пырснула са шпальтаў, —
Я вам паклон святочны шлю.

І вы, сябры, што ў шэрых буднях
Яму слугуеце штодня,
Калі няўцямных і аблудных
На мор і звод вядзе хлусня,
Калі ў адно кубло сплялося
Усякай масці гадаўё, —
Прыміце, праведнікі лёсу,
Вітанне шчырае маё!

І вас, сябры, браты і сёстры,
Вас, да чыіх асмяглых душ
Яно спяшаецца праз вёрсты
Данесці праўду вольных дум, —
Вітаю шчыра, незмусова
І зычу ўсім, што моцы ёсць —
Трымайце ў славе наша слова:
Яно ўладар тут, а не госць!

12.3.1995.

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.*

НАША СЛОВА

№1. САКАВІК. 1990. Бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Цана 20 кап.

ДАРАГІ ЧЫТАЧ!

У тваіх руках першы нумар «Нашага слова» — выданне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Яшчэ адно сціплае пацверджанне таго, што працэс вяртання законных правоў роднаму слову на Беларусі патроху набірае сілу. А ці пачуецца наша мова на сваёй зямлі гаспадыняй — на гэта адказ адзін: толькі тады, калі клопат пра яе лёс стане ўсенародным.

Першы выдатны крок на гэтым шляху зроблены — прыняты Закон, якім беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай. Але гэта менавіта крок першы і не самы цяжкі. Галоўнае, у тым ліку і найбольшыя цяжкасці,— наперадзе. Закон прымаецца для таго, каб яго змест стаў жыццёвай рэальнасцю. Мяркуючы па тым, з якім боем праходзіў ён на ...

НАША СЛОВА

ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

МЫ НАРОД

ЗВАРОТ

НАША СЛОВА

Поступ тыдня

*Няхай споўніцца — што жадаецца! Што задумана — ўсё прыдбаецца!*

НАША СЛОВА

Бацькі мудрэй

Нашы мовы, няма і няшы

АДКАЖЫЛІСЯ

ПОСТУП ТЫДНЯ

НАША СЛОВА

З Новым 1994 годам!

ПАТОК ПАГРАЖАЕ ПЕРАТВАРЫЦЦА Ў ПАТОП

# Спыніць наступ антыбеларускіх сіл!

Да грамадзян Беларусі!

*У апошнія месяцы, не без падтрымкі вышэйшых кіраўнікоў дзяржавы, у нашай краіне актыўна пачалі дзейнічаць антыбеларускія сілы. Яны хочуць спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення незалежнай Рэспублікі Беларусь. Ідзе адкрытае шальмаванне праўдзівых фактаў з гісторыі Беларусі, байкатуецца выкананне Закона аб мовах. Апошнім часам сам Прэзідэнт, вышэйшая асоба дзяржавы, ставіць пад сумнеў законнасць дзяржаўнай нацыянальнай сімволікі і дзяржаўнасць роднай мовы, мае намер правесці ў краіне рэферэндум, каб вярнуць дзяржаве двухмоўе і такім чынам пазбавіць беларускую мову статуса дзяржаўнай, хоць яна пад уціскам бюракратычнага кіраўніцтва рэспублікі па-сапраўднаму гэтага статуса так і не займела.*

*Па ўсёй рэспубліцы байкатуецца работа па аднаўленні гістарычных найменняў вуліц, вёсак і гарадоў рэспублікі, рускамоўныя шыльды па-ранейшаму застаюцца на сценах большасці будынкаў. Большасць газет рэспублікі выходзіць на расійскай мове, беларускія вышэйшыя навучальныя ўстановы не пераводзяцца на беларускамоўнае навучанне, ідзе адкрыты наступ на беларускую мову ў школах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах. На сорам усяму свету нацыянальна свядомыя грамадзяне Беларусі ўладамі абвінавачваюцца ў нацыяналізме — толькі за тое, што беларус пачаў гаварыць на мове свайго народа, сваёй зямлі.*

*Маладзечанская арганізацыя ТБМ заклікае ўсіх грамадзян Беларусі, патрыётаў Бацькаўшчыны зрабіць усё магчымае, каб спыніць наступ антыбеларускіх сіл. На падставе Канстытуцыі і законаў не дамо задушыць імкненне беларусаў стаць сапраўднымі гаспадарамі сваёй зямлі!*

*Набліжаюцца выбары ў парламент краіны. Гэта вельмі адказная і лёсавызначальная палітычная акцыя. Трэба ўсё зрабіць, каб у вышэйшы орган заканадаўчай улады рэспублікі выбраць людзей, адданых Беларусі, заклапочаных яе лёсам, самаахвярных і сумленных. Толькі ўсведамляючы свой нацыянальны абавязак і вялікую адказнасць перад будучыняй Бацькаўшчыны, мы можам разлічваць на пачэснае месца ў супольнасці народаў Еўропы.*

*Жыве Беларусь!*

**Маладзечанская Рада ТБМ імя Ф.Скарыны.**

# Не нашкодзіць новым пакаленням

Апошнім часам назіраецца актывізацыя антыбеларускіх сіл па наданні рускай мове статуса дзяржаўнай і замене дзяржаўнай сімволікі.

Я катэгарычна супраць гэтага.

У майго пакалення родную мову аднялі. Сярэднюю адукацыю я яшчэ паспела атрымаць на беларускай мове, а аб вышэйшай не было і гамонкі. Мае дзеці апынуліся яшчэ ў горшым становішчы, таму што к гэтаму часу беларускіх школ на Беларусі практычна не існавала.

Дык хай жа хоць нашыя ўнукі і наступныя пакаленні адчуюць сябе паўнавартымі грамадзянамі сваёй зямлі. А тых, каму гэта не падабаецца, ніхто тут не трымае.

**Н.Ф.БУДА.**
г.Менск.

Рупліўцы

Рупліўцы

# КАБ БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ



***Гутарка з дактарантам Інстытута эксперыментальнай батанікі АН Беларусі, кандыдатам біялагічных навук Язэпам Стапановічам***

**— Спадар Язэп, Ваша публікацыя пра лацінку ў «Нашым слове» выклікала цікавасць у чытачоў яшчэ і да Вас як да адметнай асобы. Чытачоў зацікавіла не толькі тое, што Вы дасціпна валодаеце лацінкай, але і ўвогуле Ваша актыўная дзейнасць у Таварыстве беларускай мовы ў той час, як Вы па прафесіі не філолаг, а вучоны-біёлаг. Скажыце, калі ласка, чаму сапраўды ў Вас такая асаблівая ўвага да беларускай мовы? У гэтым рэчышчы — раскажыце пра сябе: дзе нарадзіліся, вучыліся, як пачулі першае беларускае слова.**

— Па спецыяльнасці я біёлаг, гэта так. Але беларушчына да мяне прыйшла ад нараджэння. Мая радзіма — Вілейшчына, вёска Лыцавічы, што знаходзіцца на памежжы з Летувай. Аналізуючы, чаму ў мяне такая вельмі моцная, усвядомленая беларускасць, я шукаю, што называецца, гнасеалагічныя карані з'явы. Па-першае, аксіёма: кожны беларус павінен быць беларусам. Але я, зважаючы на сваіх сяброў, на асяроддзе, у якім знаходжуся, бачу, што ў мяне гэтая з'ява яшчэ і асаблівая. Адна з прычын — уплывы суседняй летувіскай культуры і летувіскай адданасці свайму нацыянальнаму. Мы з бацькам вельмі часта бывалі на кірмашах у Свянцянах, у Гадуцішках. І там бачылі, як яшчэ ў савецкія часы ў аднолькавым становішчы з намі летувісы аддана адносіліся да сваёй мовы. Проста ўражвала, як яны шануюць яе, з якім гонарам носяць сваю летувіскасць. Я задумаўся: дык чаму ж тады мы без супраціву аддаём сваю беларускасць, аддаём наша слова, даём перавагу чужому, расійскаму? З часам я гэта ўсё больш асэнсоўваў. Расла дасведчанасць, а разам развівалася пачуццё неабходнасці абароны, заступніцтва за родную мову. Я гэта пачуццё ўпарта не толькі насіў у сабе, але пастаянна пераконваў і іншых, што беларуская мова дасканалая, што на ёй можна хораша не проста паразумецца, але і развіваць самую дасканалую навуку. Я гэта даказваў усюды на сваім уласным вопыце. У школе, а пазней — у інстытуце карыстаўся ўпарта беларускай мовай, вёў дзённікі, пісаў лісты старэйшаму брату ў войска і гэтак далей. Пачаў пісаць вершы на беларускай мове. Дарэчы, студэнтам, калі мы з сябрамі прыязджалі на вёску, я абавязкова са сваімі роднымі, з маці гаварыў толькі на беларускай мове, відаць, правільней будзе сказаць «панашаму», «па-тутэйшаму».

**— А бацькі? На якой мове яны паміж сабой размаўлялі?**

— Толькі «па-тутэйшаму». І я стараўся ім захаваць камфорт гэты. Каб яны не адчулі нейкую непаўнавартасць з-за сваёй «тутэйшасці», як бацькі некаторых маіх аднакашнікаў. Разумееце, не паспее той-сёй, бывала, панюхаць горада, як ужо вязе адтуль «гарадскую» ажно ўжо «звышрускую» мову і пачынае моршчыцца, так зняважліва, мне здавалася, ставіцца да сваіх бацькоў, да сваіх суродзічаў, якія гэтай «цывілізацыі» не спасціглі. Я гаварыў пабеларуску. І ўсе ўрэшце прызналі гэтае маё права як з'яву звычайную.

Дарэчы, калі служыў у войску, мяне прызначылі старшыной роты. Заўважылі, што я часта карыстаюся беларускай мовай. Салдаты сталі нават прасіць, каб я аддаваў каманды па-беларуску. І я з іх дазволу, з іх згоды, бо ў нас служылі хлопцы з усяго Савецкага Саюза, асабліва было шмат з Закаўказзя і Сярэдняй Азіі, так рабіў. Яны ўсё разумелі без якіх-небудзь дадатковых перакладаў.

**— Па Вашых адказах адчуваецца, што Вы чалавек зычлівы, не жорсткі. Скажыце, калі ласка, як Вам удавалася камандаваць салдатамі і, мала таго — яны хацелі, каб Вы размаўлялі з імі на сваёй мове?**

— Вы, спадарыня Люба, як педагог і псіхолаг, адразу ў кропку трапілі: у мяне сапраўды характар такі. Яшчэ ў маленстве родныя браты празвалі мяне Ціхоняй (з нейкай мамінай казкі). Можа, ад таго ў сучасных умовах штосьці страчваю. Але не пакутую. Наколькі мяккі, асцярожны, настолькі і рашучы. Баланс усталяваўся на працягу пасляшкольнага самастойнага жыцця (бацькі за руку трымалі толькі да парога школы, а далей давялося памагаць ім самім). Па натуры я — незалежнік; і надта не цярплю каманды высакамернай і тупой, некампетэнтнай. Выконваючы кіравальную ролю сам, стараюся не камандаваць, а менавіта кіраваць, прыслухоўвацца да думкі кожнага сябра калектыву. Абавязак, узаемапавага, партнёрства — мае пастулаты ва ўсіх сацыяльных абставінах. І ў войску ў тым ліку, дзе я служыў курсантам, затым камандзірам танкавага экіпажа і старшыной роты.

Дарэчы сказаць, у войску кіраваць у нейкай ступені прасцей, чым грамадзянскім калектывам, які не мае ні страявога, ні баявога, ні іншага жорстка рэгламентаванага статутаў. Наконт гэтага ёсць уласны параўнальны досвед, бо да службы з'яўляўся неаднаразова камісарам і камандзірам студэнцкіх будаўнічых атрадаў, кіраваў калектывам народнага танца на факультэце, быў некаторы час, перад войскам, дырэктарам дома піянераў, пазней узначальваў навуковыя экспедыцыі. Кажучы шчыра, мне са сваімі рычагамі кіравання: узаемапавага і давер — усюды на пачатку было не проста. Не ўсе ўспрымалі нормай такі стыль. Але мае байцы ці то будатрадаў, ці то вайскоўцы хутка пераконваліся, што на ўзаемапавазе можна горы ўзводзіць. Ды абсалютна без гэтак званых «матаў». Мне жаўнеры (салдаты) задавалі пытанне: «Старшына, вы хоць калі-небудзь вылаяліся?» — Ніколі. А так, што, не зразумела? Для разнастайнасці я нават пабеларуску каманды даваў. І саслужыўцам падабалася. Прасілі працягваць.

І, уявіце, не панібрацтва ў кепскім разуменні ці анархія панавалі. Наадварот, усвядомленая дысцыпліна і парадак. Доказ таму — наша танкавая рота была лепшай у палку па баявой і па фізічнай падрыхтоўцы. На паказныя стрэльбы — нас, на страявы агляд — нас...

Былі, безумоўна, выключэнні ў асобах «катлоў» — службоўцаў апошняга тэрміну службы, — якія адмаўляліся ад неганаровай працы і якім прывілеі за кошт іншых не было. Так, у прыватнасці, адзін наш паўдэмбель атрымаў «гонар» мяняць у лазні жаўнерскія анучы амаль да канца сваёй службы.

У падобных ды іншых выпадках я атрымліваў магутную падтрымку сумленных службоўцаў. І не патрэбны Гераклавы мускулы. Такім чынам не цяжка было камандаваць. Афіцэры-штатнікі, старшыны-прапаршчыкі нават зайздросцілі, бачачы вынікі «нетрадыцыйнага падыходу».

Пасля войска паступіў у аспірантуру, адначасова працаваў у Інстытуце эксперыментальнай батанікі, бо трэба было зарабляць грошы на жыццё. Падрыхтаваў кандыдацкую дысертацыю датэрмінова, паспяхова яе абараніў. Цяпер працую над доктарскай. Адначасова беларускасць са мной, і я ўсімі сваімі фізічнымі сіламі стараюся спрыяць Адраджэнню.

**— Доктарская дысертацыя таксама звязана з біялогіяй?**

— Так. Любоў да гэтай навукі ў мяне з дзяцінства. Вельмі моцна цікавіла аграномія. Мама мне нават у агародзе маленькі палетачак выдзеліла, каб я займаўся там сваімі доследамі, праводзіў эксперыменты з раслінамі. Электрастанцыю будаваў, міні-камбайн майстраваў, каб перапрацоўваць збажыну. Таму і паступаў на прыродазнаўчы факультэт педінстытута.

**— Чаму іменна педагагічны?**

— Адначасова хацелася быць і педагогам. Пасля заканчэння інстытута мяне накіравалі на працу дырэктарам Вілейскага дома піянераў і школьнікаў. Ішоў адным з першых на размеркаванні сярод камсамольскіх і прафсаюзных актывістаў. Але я гэтым «актывістам» ніколі не быў. А вось вечным старастам быў. Як у школе з першага класа да дзесятага, так і ў інстытуце. Мяне заўсёды чамусьці абіралі старастам, хоць па натуры быў маўклівы, асабліва не лез наперад.

**— Апошнія два гады Вы старшыня Акадэмічнай рады Таварыства беларускай мовы. Як пачыналася Ваша дзейнасць у гэтым накірунку?**

— Я стварыў у сваім інстытуце адразу дзве суполкі: Народнага Фронту і Таварыства беларускай мовы. Затым мяне абралі ў першую Акадэмічную раду сябрам, старшынёй тады быў Анатоль Гурыновіч. Напачатку ў нас было звыш паўтысячы сяброў. Цяпер колькасць змяншаецца, бо працэс эканамічнага вэрхалу моцна адбіваецца на навуцы. Шмат таленавітых навукоўцаў пакідае акадэмію. Няма ўвагі да навукі з боку кіраўніцтва краіны, ніяк яна не стымулюецца. Навука ж — гэта асаблівая з'ява ў развіцці чалавецтва. І каб неяк жыць, людзі вымушаны шукаць іншыя месцы для працы. На жаль, адыходзяць і нашы сябры таксама. Тым не менш, хоць цякучасць і вялікая, але асноўныя шэрагі свае захоўваем. Робім сваю справу настойліва. Ну, а паколькі працуем у сферы інтэлектуальнай, навуковай, то, магчыма, лепей каго разумеем, што і навука павінна мець сваё нацыянальнае аблічча. Таму і стараемся спрыяць усебаковаму нацыянальнаму Адраджэнню. У прыватнасці, займаліся пытаннямі правапісу, тэрміналогіяй само сабой.

**— Добра вядома пра Вашы навуковыя нарады.**

— Нешта атрымліваецца. Стымулявалі правядзенне нарад па правапісу беларускай мовы, у якіх удзельнічалі не толькі нашы, акадэмічныя вучоныя, але і спецыялісты з іншых навучальных устаноў Менска, з бібліятэк. У лістападзе 1992 года ў нас у Акадэміі правялі Рэспубліканскую канферэнцыю па правапісу. Нашы сябры бяруць удзел у тэрміналагічнай камісіі ТБМ і з'яўляюцца арганізатарамі Першай нацыянальнай канферэнцыі па праблемах беларускай навуковай тэрміналогіі, якая адбылася летась 4—6 траўня. А сёлета, 18—19 траўня, мае адбыцца Другая нацыянальная канферэнцыя. Так было закладзена ва ўхвалах першай канферэнцыі, каб зрабіць штогадовымі абмеркаванні беларускай тэрміналогіі.

**— Каго б Вы асабліва вылучылі як актывістаў Беларускага Адраджэння?**

— Шмат сяброў Акадэмічнай рады аддае справе Адраджэння ўсе свае сілы. Назаву тут Святлану Бельскую, Міхася Нагорнага, Лявона Мішына, Рыгора Сачка, Васіля Берніка.

Дарэчы, хачу нагадаць адзін цікавы выпадак. У мінулым годзе Лявон Мішын першы ў нашай гісторыі абараніў кандыдацкую дысертацыю па біялогіі на беларускай мове. Гэта дазваляе Закон аб мовах. Аўтарэферат быў напісаны таксама па-беларуску і разасланы ва ўсе краіны СНД. І адусюль прыйшлі водгукі. Значыць, няма перашкод для разумення. Чытэльная наша мова ўсюды. Хоць галіна мікрабіялогіі — даволі складаная. Яна стаіць у шэрагу з кібернетыкай, генетыкай, цыталогіяй. Тым не менш беларуская мова дазваляе пісаць самыя складаныя навуковыя працы. Было б, як гаворыцца, жаданне. І разуменне, што наша пасіўнасць можа дорага абысціся народу.

**— Канешне, Вам многае далі бацькі і прырода. Вы валодаеце дасціпным розумам, тым не менш, як Вы спраўляецеся з такім мноствам заняткаў, іншымі словамі, што ў Вас за распарадак дня?**

— У студэнцкія гады мой кіраўнік курсавой па біялогіі спадарыня В.Я.Стрэльская неяк заўважыла: «Язэп, не будзе плёну ад тваёй распыленай дзейнасці. Сканцэнтруйся на адным!» Але ж я рыхтаваў сябе, так бы мовіць, усебакова развітым настаўнікам, таму лавіў усё, што жыццё падавала. Дастаткова асэнсаваў заўвагу пазней і стараюся яе ўлічваць. Толькі наша рэчаіснасць не дазваляе прысвяціць сябе адной справе. Нельга, хутчэй — не магу, напрыклад, абстрагавацца ад пачатага працэсу беларускага нацыянальнага адраджэння. Пра мову я асабліва заклапочаны. Мажліва, не дасць гісторыя нам новага, лепшага шанцу ўстаць на ногі. Беларуская мова — наша зброя. Так характарызаваў валоданне нацыянальнай мовай вядомы класік. Мова — найважнейшы нацыянальна-дзяржаўны атрыбут і скарб. Шкада, што высокае наша кіраўніцтва таго не разумее. Адсюль у вялікай ступені разрастанне другой бяды — эканамічнай крызы, якая асабліва балюча б'е па культуры, навуцы, іншых бюджэтных сферах грамадства. Паўстала пытанне выжывання дзяржавы і кожнага з нас як біялагічнай істоты. Пагэтаму, усведамляючы сітуацыю, неабходна неяк спалучаць, кажучы гучна, культуру і палітыку з эканомікай.

Трэба выжыць па-людску, спалучаючы здабычу харчу з духоўным узбагачэннем. Наколькі мне асабіста ўдаецца?

Не ядуць мае дзеці бананаў. Затое традыцыйныя нашы бульба, морква, буракі, капуста, ягады... кожны дзень на стале. Яны свае, безнітратныя (важны аспект!), з уласнага ўчастку і смачныя. Дастаюцца, канечне, не танней тых бананаў, апельсінаў. Праца і саматужная дастаўка быццам самі па сабе.

Мой рэжым дня складаецца ад патрэбаў справы. Тут мой прынцып: працаваць — дык працаваць. На агародзе я працую ўвесь светлавы час.

(Заканчэнне на с.7)

# У часы «імперыі» і пасля

***Мяне цікавяць ансамбль «Бяседа», гурты «Палац», «Уліс», «Крама», «Ліцвіны». Дзе я магу набыць іх касеты?***

**Сяргей ТАМІЛА.**
г.Маладзечна.

Каб адказаць на пытанне чытача, карэспандэнт «Нашага слова» сустрэўся з людзьмі, якія, кожны па-свойму, маюць дачыненне да сучаснай беларускай музыкі. Яго суразмоўцамі сталі:

**Анатоль Кірыенка** — начальнік упраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры і друку,

**Сяржук Краўчанка** — гітарыст рок-гурта «Уліс»,

**Зміцер Лукашук** — менеджэр і аўтар тэкстаў рок-гурта «Крама»,

**Вітаўт Мартыненка** — вядучы гіт-парада радыё «Свабода», аўтар выдадзенай у ЗША кнігі «Праз рок-прызму»,

**Дзмітрый Падбярэзскі** — менеджэр фірмы гуказапісу «Magic jazz agency».

**Вітаўт Мартыненка**: — Думаю, нашу размову трэба пачаць з гісторыі беларускай фанаграфіі. Наколькі мне вядома, першыя беларускія музычныя запісы на патэфонных дысках былі выдадзены яшчэ да Другой сусветнай вайны ў Чэхіі ды Германіі. Гэта былі народныя песні ды оперныя арыі ў выкананні славутага тэнара Міхася Забэйды-Суміцкага.

Але нацыянальная фанаграфія была створана значна пазней. Думаю, чытачы старэйшага пакалення помняць выдадзеныя ў 50—60-я гады ў Менску кружэлкі з выявай опернага тэатра і надпісам «Сталинский РПК г.Минска». Цяперашняя люстэркавая фабрыка, што ля менскага гатэлю "Турыст", — гэта і ёсць нашчадак першай і апошняй беларускай фірмы грамзапісу, якая знікла, перадаўшы свае правы саюзнай фірме «Мелодия». Ці варта аб гэтым шкадаваць? Бо ж рэпертуар запісаў, выдаваных у сталіцы Беларусі, быў амаль выключна расійскамоўны. Што да беларускіх запісаў, дык лепш працытую тэкст аднаго з іх:

У калгасе «Перамога»
Што ні колас — паўкіло,
Добрай працаю на ніве
Славіцца наша сяло.

Запісы трохі вышэйшага ўзроўню выдаваліся «Мелодией». Але беларусы на іх былі прадстаўлены выключна філарманічнымі выканаўцамі. Дарэчы, патрабаваннем да ўсіх, акрамя фалькларыстаў, была поўная ці часковая расійскамоўнасць рэпертуару. Пра беларускую оперу, эстраду, джаз ці рок не было нават гаворкі — рок-музыка да пачатку 80-х знаходзілася пад забаронай, а «легальныя» жанры мусілі быць расійскамоўнымі.

Таму беларускі гуказапіс існаваў не ў БССР, а па-за яе межамі. Так, Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы на фірме «Muza» быў выдадзены дыск з песнямі Забэйды-Суміцкага.Цэлую серыю дыскаў і касет з запісамі беларускіх выканаўцаў выдалі беларускія эмігранты ў Канадзе і ЗША ў 70—80-я гады. У 1990 годзе фірма «Polskie nagrania» выдала дыск гурта «Уліс» з назвай «Kraina douhaj bielaj chmary», а праз год альбом таго ж «Уліса» «Чужаніца» выйшаў у Маскве. Амаль адначасова «Мелодия» выдала і праграму гурта «Мроя» — «28-я зорка». Гэтыя два дыскі нашых рок-музыкантаў сталі першымі і апошнімі на «Мелодии» — яна знікла разам з СССР. Выданне запісаў беларускіх выканаўцаў было спынена.

**Анатоль Кірыенка**: — У свой час Міністэрства культуры БССР мела ўзгоднены з фірмай «Мелодия» план выдання запісаў беларускіх выканаўцаў. І мы патрабавалі, каб палову запісаў складалі творы беларускіх аўтараў — Аладава, Глебава ды іншых. Беларуская сімфанічная, камерная, інструментальная, эстрадная музыка добра ўспрымалася слухачамі па ўсім былым СССР. Нейкай дыферэнцыяцыі паводле моўнай прыметы тады не існавала — запісы выдаваліся не спецыяльна для беларускамоўных, а для ўсіх магчымых слухачоў і распаўсюджваліся па ўсім Саюзе. Таму чыста беларускамоўнымі сярод іх былі хіба што дыскі фальклорных калектываў.

Што да запісаў выключна для ўнутранага рынку Беларусі, дык іх было няшмат — нават тыя ж «Песняры» не адну праграму, напрыклад «Через всю войну», запісалі па-руску.

Становішча радыкальна змянілася з часу распаду Саюза. Трэба нагадаць, што каля трыццаці гадоў таму Масква прапанавала нам стварыць у Менску сваю рэспубліканскую студыю грамзапісу. Гэтую прапанову не прынялі — больш выгадным тады падалося запісваць нашых выканаўцаў у Маскве і на яе ж ускласці выдаткі. Нашы суседзі, праўда, думалі па-іншаму і таму на паліцах музычных крам той жа Вільні найбольш месца займалі дыскі з запісамі музыкі летувіскіх выканаўцаў і на летувіскай мове. Але беларускаму кіраўніцтву гэта здавалася непатрэбным. І ў выніку таго мы маем тое, што маем: адзіны беларускамоўны дыск з дзіцячымі казкамі, надрукаваны для нас два гады таму ў Маскве, дагэтуль ляжыць там на складзе — мы не можам яго адкупіць.

Сёння Беларусь не мае дзяржаўнай фірмы, якая займалася б выданнем твораў беларускай музыкі і тым самым спрыяла б развіццю нацыянальнай культуры. Бо нашае міністэрства фінансуе «Песняроў», аркестр Фінберга, іншых выканаўцаў, але ж гэтых сродкаў не хапае, каб забяспечыць усіх. Таму сёння творы беларускіх музыкантаў выдаюцца на Захадзе і там жа распаўсюджваюцца. Тым больш, што для нас танней, аказваецца, адправіць калектыў на гастролі, напрыклад, у Рым, чым у Маскву. Дзяржаўны сімфанічны аркестр, ансамбль «Купалінка» ды іншыя калектывы выдалі свае кампакты ў Італіі, Францыі, Германіі, іншых краінах, даўшы прыбытак заходнім фірмам. А запісаў для беларускіх слухачоў яны не ў стане — наша міністэрства не мае на гэта сродкаў.

Але ўсё гэта датычыць дзяржаўных калектываў, а, акрамя іх, існуе мноства недзяржаўных, напрыклад эстрадных і рок-музыкантаў, выканаўцаў фальклора... Яны існуюць па-за дзяржаўнымі структурамі і выданне іхніх запісаў з'яўляецца іх уласным клопатам. Гэта — таксама праблема. Бо ж я ведаю: беларуская дзяржава мусіць падтрымліваць нацыянальную культуру, у дадзеным выпадку музычную, але ж усё гэта вырашаецца не ў маім і нават не ў міністэрскім кабінеце. І таму сёння размова ідзе нават не аб распаўсюджванні музыкі беларускіх выканаўцаў, а аб сродках на захаванне аркестраў, хароў, ансамбляў...

**Дзмітрый Падбярэзскі**: — Адзін з кірункаў дзейнасці фірмы Magic — выпуск запісаў музыкі беларускіх выканаўцаў. Бо сёння ў краіне няма ніводнага завода, які вырабляў бы касеты ці кампакт-дыскі, а патрэба ў запісах ёсць, я перакананы. І вось наша фірма вырашыла заняцца выпускам касет з запісамі беларускай музыкі ўсіх жанраў — ад аўтэнтычнага фальклору да авангарду. Сёння да выдання падрыхтаваны некалькі касет серыі «Беларускі джаз», падпісаны дагавор на выданне праграмы Валерыя Шчарыцы — саліста дзяржаўнага канцэртнага аркестра; кампазітара і выканаўцы Уладзіміра Ткачэнкі, а таксама многіх іншых выканаўцаў. А першай нашай працай стала касета з запісам фальклорнага гурта «Бяседа». І гэты першы праект стаў нашай першай праблемай. Дзеючае фінансавае заканадаўства зрабіла сабекошт касеты настолькі высокім, што цана яе ўзрасла амаль да 30 тысяч рублёў.

Сёння мы маем дагаворы аб выпуску запісаў з мноствам добрых музыкантаў, але выданне іх стала стратным. Склалася парадаксальная сітуацыя: дзяржава не толькі ніяк не падтрымлівае беларускіх выканаўцаў, але і стварае ўмовы, якія не дазваляюць рабіць гэта іншым структурам.

Часам трэба працаваць толькі дзеля ідэі. І таму наша фірма збіраецца выдаць сігнальныя асобнікі запланаваных намі да выдання запісаў, хай нават страціўшы на гэтым. Але што будзе далей?

**Зміцер Лукашук**: — Запісы «Крамы» ёсць, і слухаюць іх не толькі ў Беларусі. У мінулым годзе мы выдалі свой кампакт-дыск у Вялікай Брытаніі. Дзве нашы касеты з запісамі праграм 1993 і 1994 гадоў выдала менская фірма «Ковчег». Ужо падрыхтаваны новы альбом, які неўзабаве выйдзе на кампакт-дыску ў Расіі. Адразу ўдакладню: калі запісаная ў Лондане праграма была англамоўнай, дык песні на кампакце, што выйдзе ў Маскве, будуць гучаць па-беларуску.

Іншая рэч, ці змогуць набыць гэтыя запісы беларускія слухачы. Бо ўсе нашыя запісы мы выдавалі не за дзяржаўныя грошы, а на сродкі прыватных асоб і фірм. Таму іх наклад быў вельмі невялікі. Што стала гэтаму прычынай? Тое, што дзяржаўнай фірмы гуказапісу, якая магла б падтрымаць выданне беларускіх запісаў, не існуе, а прыватныя прадпрыемствы арыентуюцца на масавы попыт, які ствараюць людзі, выхаваныя на іншай, не беларускай культурнай традыцыі. Прыватнікам выгадней тыражаваць запісы, якія круцяць тэлеканалы Расіі ці MTV, а не беларускіх выканаўцаў.

**Сяржук Краўчанка**: — Гурта «Уліс» ужо няма, таму наўрад ці ёсць сэнс гаварыць аб тым, дзе знайсці нашыя запісы. Трэба хутчэй спытаць, чаму яны з'явіліся ўвогуле і як мы здолелі праіснаваць пяць гадоў ва ўмовах асяроддзя, якое нас не прымала. Усе нашыя песні былі пра Беларусь, але не пра тую, у якой жывём мы ўсе, а пра іншую, якой, магчыма, не будзе ніколі... Мы не кіраваліся крытэрыямі Міністэрства культуры, не імкнуліся стаць яшчэ адным філарманічным калектывам — для нас гэта было б творчай смерцю. «Уліс» існаваў у свеце, які ён стварыў сабе сам, — выступаў у невялічкіх залах, гастраляваў у Германіі, у Англіі, выдаў дыск у Польшчы... Мы спявалі па-беларуску, але тут не адчувалі ў сабе патрэбы. Дзяржава абыходзілася без нас, мы абыходзіліся без дзяржавы. Бо мы спявалі непатрэбныя ёй беларускія песні



— «Калі знікне імперыя» альбо «Радыё Свабода» замест «Лявоніхі».

І запісы нашай музыкі выдаваліся мінімальнымі накладамі ўжо з тае прычыны, што менавіта беларуская дзяржава зрабіла беларускую музыку непрыбытковай, гэтак жа сама, як і ўсю беларускую культуру. Мы мелі сваіх слухачоў, і вельмі шчырых, у Варшаве быў нават створаны наш фан-клуб. Але людзі, якія слухаюць беларускую музыку,




сёння з'яўляюцца меншасцю, яны не ствараюць масавай аўдыторыі, з чаго і пачынаецца музычная індустрыя. Папулярная музыка — гэта частка масавай культуры, а беларуская музыка заўсёды гучыць для меншасці. Але ў гэтым, думаю, яе перавага, якая робіць нас, музыкантаў, не бізнесменамі, а асобамі, якія ў сваёй творчасці звяртаюцца да асоб. Ну а запісы? Сёння новая беларуская музыка па-ранейшаму застаецца элітарнай, а гэта значыць, што вялікага тыражу яе творы мець не будуць.

**Вітаўт Мартыненка**: — Сёння беларускія выканаўцы, не маючы магчымасці выдавацца на дзяржаўных ці прыватных фірмах, мізэрнымі накладамі тыражуюць свае запісы на побытавай апаратуры і распаўсюджваюць іх праз тыя ж кіёскі ТБМ. Столькі месца засталося для беларускай музыкі ў час, калі музычныя крамы запоўнены касетамі і кампактамі з сотнямі праграм расійскіх і заходніх выканаўцаў. Вось і чытачам гэта не падабаецца? Але ж, як вядома, хто мае грошы, той і замаўляе музыку...

**У.ПАНАДА.**

СУРОДЗІЧЫ

# Лекі ад настальгіі

Вядома, што без паветра чалавек можа пражыць некалькі хвілін, без вады — некалькі дзён, без харчоў — некалькі тыдняў. А вось колькі чалавек можа пражыць без Радзімы? Пытанне толькі на першы погляд здаецца рытарычным, бо раз ёсць хвароба, якая завецца настальгіяй, павінна быць і лякарства ад яе. Але ж вакцына, прыдуманая на пачатку стагоддзя бальшавікамі, аказалася шкоднай. Не выйшла па-ленінску, не аб'ядналіся пралетары ўсіх краін. Не збылося і купалаўскае: ...О так! Я — пралетар!..

*Яшчэ ўчорах раб пакутны —*
*Сягоння я зямлі ўладар*
*І над царамі цар магутны!*
*Мне бацькаўшчынай цэлы свет,*
*Ад родных ніў я адвярнуўся...*
*Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:*
*Мне сняцца сны аб Беларусі!*

На такі вось роздум навеяў мяне ліст, атрыманы ад земляка-беларуса Яўневіча Юрыя Паўлавіча, які ўжо больш за 60 гадоў жыве адарваны ад Беларусі. «Сасна шуміць у сваім бары, у чужым яна маўчыць», — гаворыць прыказка. А як жа склалася жыццё амаль што ўчацвёртай часткі беларусаў, раскіданых лёсам па ўсім свеце? Гэтае пытанне цікавіла мяне заўсёды, таму што й сам жыву ўжо ў замежжы.

*...Не ўсе у сваю сышліся хату дзеці:*
*Адных магіла ўжо не верне нам,*
*Другія і сягоння іншым б'юць паклон багам,*
*Ад трэціх жа гранічны слуп нас аддзяляе.*
*Відаць, што доля ўжо такая...*

Я.Купала.

Было ў гэтым пісьме Юрыя Яўневіча штосьці такое, ад чаго зашчымела душа. Я некалькі разоў перачытаў думкі мудрага чалавека, напісаныя на беззаганнай беларускай мове. Выявілася вельмі простае, аб чым ніколі не задумваўся. Аказваецца, толькі з вышыні пражытага жыцця, калі яно ўжо на самым схіле, бачна, як бывае запозна любіць Бацькаўшчыну. Памыляецца народная прымаўка, гаворачы, што «вучыцца ніколі не позна». Усё бывае позна — і вучыцца, і любіць. «Сэрцам спачуваю, але нічым карысным для Айчыны ўжо быць не магу», — такі сэнс быў укладзены ў радкі пісьма Юрыя Паўлавіча. І яшчэ такі высновак напрошваўся сам сабою: як бы не прыгняталася нацыя, як бы не нарошчвалася чужароднае мяса на беларускіх касцях амаль што стагоддзямі, не памрэ беларуская душа, беларуская мова, пакуль жыве беларус. Вось толькі-толькі засвяціла сонейка свабоды над Бацькаўшчынай, і адраджаюцца, прачынаюцца пупышкі, ажывае генная сіла, пачынае зелянець беларуская рунь, нават там, дзе яе ўжо, здавалася б, марна чакаць. Больш за 60 гадоў, вырваны амаль што з каранямі (на Беларусі засталіся толькі магілы продкаў), шчыры беларус шукае свайго шчасця-долі ў іншых краях. Павывучаў мовы, працаваў, вяваў на чужых землях, шанаваў традыцыі і культуры братніх народаў, але ў глыбіні душы, у снах мроілася аб Беларусі. «Першымі і самымі радаснымі ўспамінамі, — кажа Юрый Паўлавіч, — была вясна нашага Адраджэння, першая спроба пабудовы самастойнай дзяржавы. Тады, пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі:

*...І пайшла, і пайшла, нібы хто набаяў,*
*Ад сяла да сяла гутарка такая:*
*Беларусь на куцё, у сваёй хаце сяла,*
*Чарка мёду ў руцэ, пазірае смела...».*

І як жа хочацца, каб прачыталі гэта тыя нашы сённяшнія беларускія русафобы, якія ганьбяць мову, абвінавачваючы яе ў недасканаласці, у «сякернасці», карыстаючыся чужой, запазычанай. Забыліся, што «пазычай — злы абычай», і што ёсць своя, не горшая за іншыя, родная, гістарычная, матчына. Забыліся і пра тое, што яна шанавалася светам, нават царыла ў Вялікім Княстве Літоўскім. І не яна вінаватая ў такім лёсе, а, па-большаму, мы самі. Што ёй толькі і патрэбна — дык гэта адчыніць ёй дзверы і вокны, адвучыцца пазычаць, займець свой гонар. «Памятаю, — піша Юрый Паўлавіч далей, — як паступова, паволі беларуская мова прыйшла ў школы, у дзяржаўныя ўстановы, у горад. Як мы быццам нектар усмокталі ў сваё юнацкія душы яе чароўны водар і характво. Мы не толькі к 1927 году пісалі па-беларуску, а і жылі і спявалі па-свойму, па-нашаму. К канцу 1932 года я пераехаў на Украіну, і ўвесь жах наступных гадоў адбываўся ўжо без мяне, але мне не цяжка яго сабе ўявіць, бо падобнае тварылася і на Украіне. Хаця сапраўдных размахаў гэтага зладзейства не ведаў ніхто, хлусня і жах запаланілі адну шостую частку свету. Зараз стала вядома, што калектывізацыя і індустрыялізацыя згвалтавалі жыццё рабочых і сялян. А «падбадзёршчыкі» спявалі:

*...І расцуць, і множацца*
*Фабрыкі, заводы,*
*На ніве калгаснае*
*Усходзяць буйна ўсходы...*

Я.Купала.

Вядома, што з 1926 па 1932 гады вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі паменшылася больш як на чвэрць, ужо голад кашчавую рукою браў за горла Украіну і Беларусь. Улады ж трубілі аб перамогах. Тых жа, хто не падпяваў, агалошвалі сацыяльна небяспечнымі элементамі, а за прыпеўку

*Устань, Ленін, падзівіся,*
*Як калгасы нажыліся.*
*На варотах серп і молат,*
*А ў калгасах поўны голад*

свяціў шлях ненаеднай Сібіры і Поўначы. Складаліся спісы «ворагаў народа», «польскіх шпіёнаў», «трацкістаў» і г.д. З імі ж вядома як распраўляліся, па законах, праўдзівей па беззаконню «класавай барацьбы». Бальшавіцкая чума рабіла сваю чорную справу якасна і паслядоўна. Нам паказвалі ў кінахроніках, як Гітлер знішчаў культуру, рабіў вогнішча з кніг, але мала хто ведаў, што Сталін рабіў тое ж самае, толькі ціха і пад бадзёрыя спевы: «Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек».

Гэта прынесла вялікую шкоду маральна-псіхалагічнаму здароўю нацыі».

Юрый Паўлавіч ні аб чым не шкадаваў, тым больш не жаліўся на долю, але паміж радкоў ягонага пісьма адчувалася вялікая крыўда на лёс. Мне захацелася сустрэцца з земляком, так і напрасіўся я да яго ў госці. Мы разгаварыліся. Ужо астыў духмяны чай, а ўспамінам не было канца. Я глядзеў на яго спрацаваныя рукі — ён усё жыццё працаваў у гідратэхніцы, і стала сорамна і балюча за дзяржаву, якую гэтыя людзі будавалі і абаранялі, а зараз яна не ў стане забяспечыць хоць больш-менш прыстойную старасць. Гаспадар, адгадаўшы маю думку, прамовіў: «Шкада, жыццё амаль прайшло, і нічым карысным ужо быць не магу». «Чаму?» — запярэчыў я. — Ужо тое, што Вы захавалі, пранеслі цераз дзесяцігоддзі павагу да нашай гісторыі, да роднага кутка, да сваёй мовы, шмат чаго значыць». «Не, — цвёрда адказаў ён. — Шмат было памылак, вельмі доўга трымаў мяне ў палоне марксісцка-ленінскі блуд, зараз я думаю па-другому. Хлусліва быў век, але яму надыходзіць канец. Так бы хацелася, каб цяперашняя спроба нашай Бацькаўшчыны здабыць незалежнасць, уваскрэснуць збылася. Толькі трэба, каб маладыя не праспалі. У яе сёння шмат ворагаў, што хапаюць, як мерцвякі за ногі, цягнуць у новае ярмо. Другія кажуць, што ўвогуле ўжо няма Беларусі, працэс, аб якім так шчыра гаварыў былы генсек і прэзідэнт, ужо «прайшоў». Беларусь зрусіфікавана і ссаветызавана. Хлусня ўсё гэта. Ні векавая русіфікацыя, ні два стагоддзі паланізацыі не затапталі душу беларуса. Вось вазьміце мяне, няхай пераправілі ў пашпарце з беларускага Яўневіча ў нейкага Евневича, з беларускага Юры зрабілі рускага Георгия. І наогул, па нацыянальнасці, як шуткуе жонка, я нібы бел-пол-рускі. Але я заўсёды быў і да канца дзён сваіх застануся беларусам».

Вось такая адбылася размова, а на завяршэнне — верш:

*Ты, мой брат, каго зваць беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся.*
*Як не зрокся яе пад прымусам,*
*Так і вольны цяпер не зракайся.*
*Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,*
*Гэты скарб нам адзін захаваўся*
*У сялянскай аграбленай хаце*
*Толькі ён не забраным застаўся.*
*Дык шануй, беларус, сваю мову,*
*Гэты скарб нам на вечныя годы.*
*За пашану радзімаму слову*
*Ушануюць нас брацце-народы.*

Такі вось беларус жыве ў Львове.

**Б.ЦІМАШЭНКА.**
Львоў.

**Ліст з Аўстраліі**

# Назва кнігі можа быць «The President who hates his country»...

У сродках масавай інфармацыі рэспублікі распаўсюджаны Адкрыты ліст генеральнага сакратара Асацыяцыі беларусаў Аўстраліі да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

У лісце з Аўстраліі згадваецца, што нашы суродзічы за мяжой у свой час з вялікім спадзяваннем сустрэлі заяву першага Прэзідэнта Беларусі аб тым, што ён у самы кароткі тэрмін навядзе належны канстытуцыйны парадак у краіне, выведзе яе з цяжкага эканамічнага крызісу і зробіць укарот арганізаванай злачыннасці, у тым ліку карупцыі — зламыснаму прадажніцтву дзяржаўных кіраўнікоў, чыноўніцтва. На жаль, гаворыцца ў лісце суродзіча з Аўстраліі, той даволі значны тэрмін, які прайшоў з часу выбараў Прэзідэнта, паказвае, што ўсё засталося не проста такім, як было раней, але становішча пагаршаецца, спадзяванні народа на лепшае жыццё не спраўджваюцца: прыродна даволі багатая Беларусь, размешчаная ў самым цэнтры Еўропы, на эканамічна выгадных міжнародных шляхах зносін, даводзіцца да канчатковага стану жабрацтва, а розныя паразіты па-ранейшаму смокчуць беларускую кроў.

Але аўстралійскія беларусы, занепакоеныя лёсам сваіх блізкіх і суродзічаў на Бацькаўшчыне, усё яшчэ не губляюць надзеі, што Прэзідэнт выканае перадвыбарчыя абяцанні. Праўда, непакоіць тое, што замест падтрымкі дзеяннямі дэпутата С.Антончыка з боку прэзідэнцкай улады яму чыняць усялякія перашкоды. Чаго варты адзін толькі эпізод з «белымі плямамі» на старонках вядучых газет рэспублікі. «Мы ў Аўстраліі, — гаворыцца ў лісце, — моцна асуджаем тых, хто ламае канстытуцыйныя правы беларускага народа і стараецца ізноў накінуць на яго ярмо фашыстоўска-камуністычнай дыктатуры!».

Вельмі занепакоены аўстралійскія беларусы станам беларускай мовы на Бацькаўшчыне. «У Асноўным Законе Рэспублікі Беларусь, — звяртаецца да Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі генеральны сакратар асацыяцыі беларусаў Аўстраліі, — ясна гаворыцца, што дзяржаўнай мовай ёсць **беларуская мова**, дык калі народ будзе мець радасць пачуць Вашы даклады і выступленні на гэтай мове?»

Дарэчы, зазначаецца далей ў лісце, згодна сабранай інфармацыі, першы беларускі Прэзідэнт ёсць адзіным прэзідэнтам **у свеце, каторы саромеецца дзяржаўнай мовы сваёй краіны** (падкрэсленне аўтара ліста з Аўстраліі — рэд.). Тыя аўстралійцы, гаворыцца ў лісце, якія сочаць за падзеямі ў Беларусі, пытаюцца: чаму? «Я асабіста трымаюся думкі, — зазначае сп.Алесь Алехнік, — што Вы ўсё яшчэ вывучаеце беларускую літаратурную мову і ў скорым часе выступіце з прамовай на ёй...»

У Аўстраліі, піша аўтар ліста, «уважліва сачылі за афіцыйнай візітай Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Летувіскую Рэспубліку, то ўсе ўспамінаюць, як летувісы і тамтэйшы ўрад ставіцца да мовы карэннага насельніцтва». Як ведама, згадвае сп.Алехнік, калі Летува абвясціла сваю незалежнасць яшчэ ў 1918 годзе, летувіская мова па тым часе была амаль што знішчаная, асабліва ва ўжытку гарадскога насельніцтва. «Аднак Урад Летувы **не патрабаваў жаднага рэфэрэндуму** (падкрэсленне аўтара ліста — **рэд.**), але адразу назначыў **Асобную камісію**, адзіным заданнем якой было **Адназуленне летувіскай мовы** (падкрэсленне аўтара ліста — рэд.), што і было зроблена ў параўнальна скорым часе»... «Таксама было зроблена і цяпер, калі Летува аб'явіла сваю незалежнасць... — летувіская мова адразу і аўтаматычна стала дзяржаўнай... і на ёй размаўляюць лідары ўсіх палітычных плыняў». Дык навошта ж беларусам такі сорам? — піша аўтар ліста. — «Мы знаем, што прыхільнікі "единой и неделимой" маскоўскай імпэрыі і таксама некаторыя, апанаваныя псіхалёгіяй рабства асобы беларускага паходжання моцна ненавідзяць незалежнасць Беларусі, а таму і беларускую мову, гісторыю ды культуру. Гэтыя імпэрскія адпадкі нават маюць нахабства дамагацца «рэфэрэндуму» па справе мовы і нацыянальнай сімволікі... Сорам, пазор і ганьба! Ці ж Польшча, Расія, Летува ды Фінляндыя рабілі падобнае?!» А ў гэтых жа краінах таксама жывуць і прышлыя людзі, зазначае аўтар ліста. Дык тым з іх, хто жыве ў Беларусі, варта напомніць, што і беларусы, якія па нейкіх прычынах пражываюць у іншых краінах, уключаючы Расію, вывучаюць і шануюць мовы гэтых краін, то чаму ж у Беларусі рабіць не па-людску, а дзеля ганьбы яе карэннага насельніцтва.

Што да негатыўнага падыходу асабіста Прэзідэнта да беларускай мовы, адзначае аўтар ліста, то мусім паведаміць, што за гэтым цяпер наглядаюць вядомыя аўстралійскія палітыкі і журналісты, а некаторыя журналісты ўжо займаюцца збіраннем матэрыялу для англамоўнай кніжкі пра жыццё і канувшыліся маладой Рэспублікі Беларусь і дзейнасць яе першага, усенародна выбрага Прэзідэнта. Адна з назваў для кнігі прапанавана наступная: «The President who hates his country» — альбо па-беларуску: «Прэзідэнт, каторы ненавідзіць сваю краіну»...

Ад імя аўстралійскіх беларусаў спадар Алесь Алехнік просіць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь не даводзіць справу да такіх ганебных для ўсіх беларусаў рэалій і ўвогуле спадзяецца на водгук Аляксандра Лукашэнкі на свой Адкрыты ліст. Які, зазначым, напісаны згодна сучаснаму беларускаму літаратурнаму правапісу.

**Уласны кар.**

**У СУСЕДЗЯЎ**

# У паветры — аднамоўе. Англійскае. У Расіі таксама

Пакуль нашы заўзятыя рэаніматары СССР змагаюцца за выключныя прывілеі для расійскай (рускай) мовы на Беларусі, у Расіі інтэнсіўна вядзецца навучанне спецыялістаў мове англійскай. У добрым веданні гэтай мовы зацікаўлены ўсе прадпрымальнікі і вучоныя, якія імкнуцца эфектыўна пашырыць дыяпазон сваёй дзейнасці, але для авіятараў веданне яе становіцца пасядзённай неабходнасцю. Яшчэ з канца мінулага года ўсе экіпажы паветраных караблёў, незалежна ад іхняй нацыянальнай ці ведамаснай прыналежнасці, выконваючы палёты ў небе Расіі па міжнародных трасах, проста абавязаны весці перамовы па радыё толькі па-англійску, як гэта прынята ў сусветным авіяцыйным супольніцтве. Наконт гэтага міністр транспарту Расійскай Федэрацыі аддаў спецыяльны загад, які строга кантралюецца, — у паветры нават дробязныя недакладнасці ў дзеяннях экіпажаў самалётаў вядуць вельмі часта да сур'ёзных здарэнняў. Самалёты ў паветранай прасторы ляцяць згодна вызначанай вышыні — у эшалоне, але іншым разам здараецца, што лайнеры па нейкіх прычынах вымушаны нечакана мяняць эшалон і тады рызыкуюць сутыкнуцца з тымі, у каго такая вышыня планавая. У гэтых выпадках узнікае неабходнасць весці радыёабмен па каналах «борт — борт», а не толькі «борт — зямля», гэта значыць з дыспетчарскай службай. «Разнагалосіца», якая яшчэ і цяпер мае месца ў расійскім небе, можа скончыцца кепска. Кіраўнік галоўнай інспекцыі Расаэранавігацыі згадвае выпадак, калі ў растоўскай паветранай зоне расійскі і фінскі лайнеры ажно сем мінут(!) ляцелі што называецца крыло да крыла, таму што з рознагалоса ні не маглі дамовіцца ні пра тое, каму ў які бок адварочваць, ні ўдакладніць сваё месцазнаходжанне. Добра, што выручылі наземныя дыспетчары. У часе іншых падобных інцыдэнтаў — каля Санкт-Пецярбурга і бліз Хабараўска — небяспечныя збліжэнні хуткасных гігантаў лайнераў, калі яны аказаліся менш чым у дзвюх сотнях метраў адзін ад другога, скончыліся добра толькі дзякуючы таму, што абодва экіпажы ведалі англійскую мову і змаглі хутка паразумецца, дакладна ўзгадніўшы манеўры разыходжання пры адсутнасці візуальнага кантакту.

Хоць навучанне радыёабмену па міжнародных стандартах — справа дастаткова дарагая, расійскія авіякампаніі на гэта вымушаны пайсці, каб і надалей карыстацца міжнароднымі авіятрасамі, якія прыносяць асноўны прыбытак у валюце. Да таго ж і надзейная бяспека пасажыраў мала што не мае грашовага эквіваленту, але і ў выпадку аварыі, калі камісія прызнае, што гэта магло здарыцца з-за няведання экіпажам ці наземнымі дыспетчарскімі службамі англійскай мовы, можа пацягнуць за сабой вялікія фінансавыя страты ў выглядзе штрафаў і страхавых выплат блізкім загінуўшых.

**У.А.**

ВУЧЫМСЯ

## «Птушыны» фальклор

Што беларускі фальклор самы багаты ў свеце, заўважана даўно. Ён вызначаецца і жанравай разнастайнасцю. Адны жанры — прадуктыўныя, другія — менш пашыраныя. Ёсць і маляведомыя. Так, незвычайнымі выглядаюць вершы да спеваў птушак. Упершыню я іх пачуў некалі ад свайго бацькі. Ён умеў перадрабляць галасы звяроў, высвістваць мелодыі птушак. Некаторыя мелодыі мог перадаць словамі. Помніцца такі фрагмент салаўёвай песні (падаецца з захаваннем асабліва сцяў мясцовай гаворкі):

*Пакупі пару кулё-о-ў!*
*П-а-а-рабак, па-а-рабак*
*Сакерку ўкроў.*

Не раз слухаючы салаўя, я міжволі ўспамінаў гэтыя словы і адчуваў, як яны рытмічна і інтанацыйна кладуцца на пачутую мелодыю.

Ці ўявіце такую карціну. На тэлефонным дроце сядзіць ластаўка і шчыруе на ўсю ваколіцу:

*Пастух, пастух,*
*Каб ты спух,*
*У хаце жарэш,*
*У поле бярэш*
*І не нажарэшся-а-а!*

А вось курыца, перад тым, як знесці яйка, ці пасля таго, выконвае сваю рытуальную:

*Ко-ко-ко-ко-ко куда-ак!*
*Знясу (знясла) яйко, як кула-ак!*

Падобныя вершы складаліся людзьмі, якія былі цесна звязаныя з прыродай, адчуваліся яе часцінкай, штодня ўслухоўваліся ў яе гукі. Цяпер, калі чалавек аддаліўся ад прыроды, знікае глеба для існавання такога фальклору. Створанае нашымі дзядамі, на жаль, забываецца, адыходзіць у нябыт. Застаецца спадзяванне, што не ўсё страчана, што яшчэ захоўваецца ў памяці «птушыныя» вершы. Добра было б сабраць іх разам і з нотамі выдаць асобнай кніжкай. Для нашчадкаў.

**М.ДАНІЛОВІЧ,**
**дацэнт кафедры мовазнаўства Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.**

Меркаванні

## Аб літаратурнай мове і дыялектах

Чытачы, і ў першую чаргу настаўнікі, атрымалі вельмі каштоўныя звесткі з публікацыі ў газеце «Наша слова» адказаў на пытанні А.Крывіцкага аб мове і дыялектах (№ 5, 1994 г.) і артыкула А.Падлужнага аб літаратурнай мове (№ 39, 1994 г.). Калі ў пытанні нацыянальнай мовы яны дапаўняюць адзін другога, то ў вызначэнні ролі літаратурнай мовы і дыялектаў, на маю думку, супярэчаць сабе.

Сп.Крывіцкі гаворыць, што беларуская літаратурная мова — гэта толькі адна з разнавіднасцей нацыянальнай мовы, вельмі важны і значны набытак народа, прытым малады, мае каля ста гадоў. Другім відам нацыянальнай мовы з'яўляюцца мясцовыя гаворкі або дыялекты, якія выступаюць важнейшай сутнасцю, зместам жывой мовы, якая мае тысячагадовы ўзрост. Нацыянальная мова ўяўляе сабою адзінства гэтых відаў мовы. Дыялектам адводзіцца вядучая роля, бо без іх літаратурная мова не можа існаваць і развівацца. Таму супрацьпастаўляць іх не трэба.

Сп.Падлужны піша, што літаратурная мова ёсць вышэйшая форма нацыянальнай мовы, скарб усяго народа. Яна выконвае важнейшыя грамадскія і дзяржаўныя функцыі, мае выключна вялікую аб'ядноўваючую сілу. Аб ёй праяўляецца асноўны клопат урада, што зазначана ў Законе аб мовах і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Дыялекты ацэньваюцца як мова больш нізкая, яны абслугоўваюць толькі пэўныя тэрыторыі Беларусі. Убачаная тут супярэчнасць, на маё здзіўленне, зблікаецца і нават знікае, калі трактоўку ролі і месца літаратурнай мовы і дыялектаў А.Крывіцкім звярнуць у мінулае, а А.Падлужным — да сучаснага і будучага нашай мовы. Тады пазіцыя абодвух становіцца правільнай.

Раней вусная мова беларускага народа, а яна амаль увесь час жыла ў выглядзе дыялектаў, была, вядома, важнейшай формай існавання нацыянальнай мовы і паслужыла асноваю ўтварэння літаратурнай і крыніцаю яе развіцця і абагачэння. Менавіта такая яе роля ў гісторыі нашага народа.

Але цяпер такое значэнне рэгіянальных гаворак звялося да мінімальнай ступені, бо ўсё шырэй дзейнічае літаратурная мова, як пісьмовая, так і вусная. Яе ролю і ўплыў у грамадстве ўзмацняюць радыё, тэлебачанне, друкаваныя выданні, дзе яна выступае як «апрацаваная, унармаваная моўная структура». На ёй гаворыць усё больш інтэлігенцыі. Яна становіцца ўплывае на мясцовыя гаворкі, падымаючы і паляпшаючы іх узровень. Праўда, як зазначыў А.Падлужны, рэгіянальныя гаворкі псуе ўплыў пануючай у нас рускай мовы. Адсюль, канешне, атрымліваецца «трасянка»: дзярэўня, дзярэўя і г.д. Але і сельскае насельніцтва, дзе найбольш жывучыя дыялектныя асаблівасці, навучаецца ў школах, авалодвае ў пэўнай ступені ўнармаванай мовай і ў перспектыве з шырокім ажыццяўленнем Закона аб мовах значэнне дыялектаў значна ўпадзе.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ.**
г.Ашмяны.

КУЛЬТУРА МОВЫ

## Гэта ўсіхні клопат

На Беларусі шмат людзей, якія працуюць з словам. Гэта і ўсе настаўнікі, і выкладчыкі мовы, і вучоныя, журналісты, рэдактары, стылісты, карэктары... Усіх і не пералічыць, для каго слова — інструмент працы, хто жыве з слова. Але вось бяда — вельмі мала ў нашай мовы рупліўцаў, дбайцаў. Калі гэта не так, то чаму ж мала ў друку заклапочаных нататкаў пра слова, за слова. У нашай мове гэтулькі наноснага, выпадковага, бюракратычнага, няўдала скалькаванага, а пішуць, дбаюць пра гэта адзінкі. Выходзіць, усіх астатніх задавальняюць і «цялесныя пашкоджанні» і «праездныя часткі», розныя «устройствы», «ўроны» (калі ёсць страты), «падвярганні», «праследаванні», «знямяняльная», «адшукванні», «ушчамленні», «сцярпленні», «выдварэнні», «усямерныя» і шмат-шмат чаго іншага...

Сёння размова пра назву аднаго фільма, як мы яе перакладаем. Фільм гэты даўні і вядомы, яшчэ даваенны. Яго часта паказваюць, а назва яго стала крылатаю, афарыстычнаю. Фільм гэты называецца «Весёлые ребята». То як жа мы яго перакладаем? А так і перакладаем — «Вясёлыя рабяты». Больш правільна сказаць — не перакладаем, а перадаём беларускай фанетыкай. А ці ўжо напраўду наша мова не мае адпаведнага эквіваленту? Ці шукалі яго? Ці думалі? А тут і шукаць не трэба: адпаведнае беларускае слова стаіць у слоўніку, на языку ўсіх, хто гаворыць роднаю моваю. Не спяшайцеся мне падказваць... Хто падумаў, што я хілю да слова «хлопцы», той памыліўся. Якраз слова «хлопцы» ў назву фільма і не хоча станавіцца. Нияк неэквівалентна гучыць «Весёлые ребята» — «Вясёлыя хлопцы». Калі б гэта было так, то перакладчыкі даўно б яго паставілі ў назву згаданага фільма. Але, відаць, гэтакі пераклад іх не задавальняў: парушаецца, траціцца музычнасць назвы, яе мелодыка, афарыстычнасць. І я з гэтым згодны. Але ж наш народ, апрача нейтральнага слова «хлопцы», мае яшчэ ўтвораную ад гэтага слова форму «хлапцы́». Згаданае слова якраз надзелена той эмацыянальнай афарбоўкай, што і расійскае «ребята». Яно трапляе і ў мелодыку назвы, яе экспрэсіўнасць. Параўнаем: «Весёлые ребята» — «Вясёлыя хлапцы́». Усяго толькі невялічкі моўны марафет, а як загучала назва, слова!

Вось паставіў кропку на сваіх развагах пра слова «ребята», «хлапцы», а сам усё яшчэ думаю: «Няўжо для гэтага патрэбна было больш за шэсцьдзесят гадоў, каб аднойчы засяродзіць увагу на такой відавочнай дэталі?.. А хіба раней не бачылі, не адчувалі, што назва фільма перакладаецца без уліку стылістыкі роднае мовы?»

Пэўна што бачылі, але не знаходзілі ў сваёй душы той энергіі, каб заступіцца за наша слова, ці абурыцца, ці засяродзіць увагу. Маўклівасць, даўно вядома, сястра злачыннасці. Давайце ж не маўчаць! Давайце біць трывогу за кожнае слоўка! Гэта ж з нашай маўклівай згоды на нашым радыё адны сабе дазваляюць гаварыць «мытня», а іншыя абыходзяцца і «таможняй», адны кажуць «гарбуз», іншыя — «тыква»... У хляве́ і ў хлеве, адзін чэкае, другі чекае. Чуем: гаю́чай і га́ючай, у то́мах і тама́х, бацьку і бацьку́, падатка і падатку... І ўсё гэта лічыцца беларускай моваю... Адзін дзякуе вам, другі дзякуе вас... Адзін жэніцца з Алесяй, другі жэніцца на Алесі... Адзін скланяе прозвішчы тыпу Лукашэнка, Бандарэнка, другі — не. Адзін ходзіць па ваду, а другі за вадой... Аднаму здаецца, што назоў вінтэль-засоўка будзе беларусу незразумелы, і ён тут жа ў беларускамоўнай перадачы скажа вам: «вінтэль-засоўка — винтель-задвижка». Адзін гаворыць з Каратчэнем, другі з Каратчэняй... А розныя «адшукваюцца», ды «адшукоўваюцца», калі трэба проста сказаць: шукаецца грамадзянін. Ці проста: «У расшуку грамадзянін такі і такі...» Дык не: яны грамадзяніна адшукваюць. Яны гавораць абы-як, а мы як у той песні: «А мы — маўчым, маўчым, маўчым...» Ці дойдзем хоць калі да той моўнай гармоніі, якая дае падставу нашу мову за яе мілагучнасць паставіць на другое месца ў свеце?

Гаворка пра абыякавасць да мовы не ёсць прыватная гаворка. Абыякавасць да мовы — гэта абыякавасць да ўсяго. І найперш — недысцыплінаванасць душы, яе разлад. А за гэтым стаіць усё астатняе...

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

## Наступствы

У сваім допісе «Паследкі?» (№ 6 «НС») шаноўная спадарыня Валянціна Бразоўская прапануе чытачам «пашукаць» трапны, дасканалы адпаведнік рускага слова последствия. І тут жа робіць выснову, што «не трэба шукаць таго, што ўжо ёсць. Словы паследкі, паследствы вельмі дакладныя ў выразе «ліквідацыя паследкаў аварыі». Заадно яна выносіць прысуд Тлумачальнаму слоўніку беларускай мовы, што «ён ужо і састарэў».

Дазвольце не пагадзіцца. Укладальнікі Слоўніка поўна і дакладна раскрылі семантыку лексемы паследкі, праілюстравалі яе цытатай Янкі Купалы: *Нас самавольна земскі карае, Душыць, саджае ў адседкі, Крыўдзіць ураднік, поп абірае, Воласць з нас цягне паследкі*. Адсюль вынікае, што паследкі — гэта «рэшткі, астаткі». А вось цытата з твораў У.Карпава: ***[Барушка:] — Ведаем мы такіх абаронцаў народных, і самі з вусамі... Паследкі сабачыя!*** Яна сведчыць пра ўжыванне слова паследкі ў значэнні «падонкі» ў зневажальнай форме.

У народнай мове лексема паследкі і яе дэрываты абазначаюць:

1. Пазаддзе. *Ек вееш, то послед падае блізко коло рук, а далей хорошэ.* 2. Слабая самагонка. *Послед — слабая гарэлка, котора не горыць* (Тураўскі слоўнік, т.IV).

Найперш зазначым, што паследкі ў значэнні «вынікі» ўжываюцца вельмі абмежавана. Газеты «Звязда», «Народная газета» і асабліва «Літаратура і мастацтва» ў названым значэнні выкарыстоўваюць лексему наступствы. Досыць часта яе ўжывае і народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

Слова паследкі вядома многім славянскім мовам. Ва ўсходнеславянскіх мовах яно мае прыкладна аднолькавую семантыку: «астаткі, рэшткі» (Словарь современного русского литературного языка, т.Х; Словарь русского языка, т.III; С.И.Ожегов. Словарь русского языка; В.П.Лемцюгова. Украінска-беларускі слоўнік; І.І.Насовіч. Слоўнік беларускай мовы; Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. IV; Этымалагічны слоўнік, т. VIII). Усе згаданыя крыніцы падаюць гэта слова з паметай «размоўнае», «просторечное». Дык ці варта нам уводзіць у афіцыйна-справавы (дзелавы) стыль словы гутарковыя, эмацыянальна афарбаваныя, тым больш што няма вострай патрэбы.

На наш погляд, гэтую праблему паспяхова вырашыў вядомы мовазнаўца Алесь Каўрус у сваёй кнізе «Дакумент па-беларуску» (Мн., 1994). Рускае слова последствие ён перакладае беларускім — вынік, наступства. Государственный комитет по проблемам последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС — Дзяржаўны камітэт па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Здаецца, лексема наступствы, якая атрымала пашырэнне ў сродках масавай інфармацыі, можа задаволіць усе густы перакладчыка, тым больш што ў нашай мове ёсць словы наступіць, наступны. Чарнобыльская навала працягвае наступаць.

**Мікалай ДАРОШКА.**

## ЯЗЫК ЯК ПЕРАЦ

Кажа, як вяжа.
Каласкі як камаровыя наскі.
Калоціцца, як асіна.
Кальнуў, як шылам.
Калючы, як ёрш (аджгір).
Кануў, як камень у ваду.
Кароўка як каза.
Карысці як з порхаўкі.
Каса (тупая) як падносак.
Карэлы, якануча.
Касаплётка як ружа жывая.
Кахаюцца, як галубкі.
Кепскі кватаранец, як барана ў хаце.
Ківаецца, як рабін.
Кідае, як у бяздонную студню.
Кінуў, як камень у ваду.
Кіпіць, як вада ў гаршку.
Кіпіць, як у катле.
Кіпіць, як у пекле.
Кіпці (кіпцюры) як сахары (вілы).
Кіслы, як лесавы яблык (лесавічок).
Кіслы, як кісля.
Кіслы, як журавіна.
Кіслы, як яблык з дзічкі.
Кланяюцца, як крыніцы пры дарозе.
Кленчыць, як жабрак за акном.
Клыкі, як у кныра.
Клюнуў, як верабей.
Кляне, як марозам на вяргіню вее.
Конь як карцінка.
Конь як лялька.
Коскі як мышыныя хвасточкі.
Коціцца, як клубок.
Крадзецца, як злодзей.
Крам (крамніна) як рэшата.
Круглы, як бочка.
Крохкі, як парахня.
Круглы, як бервяно.
Круглы, як калода.
Круглы, як качан (капусты).
Круглы, як качулка.
Круглы, як кола.
Круглы, як яйка.
Круціцца, як вавёрка.
Круціцца, як верацяно.
Круціцца, як вецер на прыгуменні.
Круціцца, як віхор.
Круціцца, як вуж.
Круціцца, як вяроўка.
Круціцца, як голы ў крапіве.
Круціцца, як на шрубах.
Круціцца, як сабака ля ганку.




*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Сваё па-сапраўднаму еўрапейскае аблічча эстонская паэзія пачала набываць у творчасці Густава Суйтса (1883—1956) і Марыэ Ундэр (1883—1980).

*Густаў СУЙТС*

### Багі і ёлупні

Неба трымаюць багі неўміручыя.
Дол жа смяротныя ёлупні мучаюць.

Тут беспрабуднасць і ўранні і ўвечары.
Мудрасць нябесная ночы падсвечвае.

Шчодрае неба агнямі багатымі
Зззяе над нашымі цёмнымі хатамі.

Млеюць паэты сусветнаю стомаю.
Моўчкі змрачнеюць сябры і знаёмыя.

**Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА.**

*Марыэ УНДЭР*

### Зоркі

Ноч. Зоркавая поўніца.
Пакой. Акно. Бяссонніца.

Яшчэ дзяўчом вас ведала
І ў вочы вам даверліва,

Адданая, дзівілася...
Тады яшчэ не снілася

Усё, пра што вось думаю,
І што на галаву маю

Абрынулі каменнямі...
Вы кімсьці мне падменены.

І ўсё ж — як струнку тонкую
Кранае хто далонькаю...

Зноў зоркі сцерагуць зямлю.
Зноў я — не сплю...

### І ўпала адна зорка

Нахабна-нова выглядае поўня,
Ды не вярну таго, што ўжо не ўспомню.

О, горад мой, твае жывуць кварталы,
Якія я пакуль не адшукала!

А хто існуе ў згодзе з немагчымым —
Дзе вуліца яго? Яго айчына?

Няўжо ўсё — міф і цень? На хвалі — блікі?
Ды будзіць сэрца мара аб вялікім.

І вось упала, нібы згадка, зорка:
Мне на зямлі і соладка, і горка.

Нічым я стану? Палячу ў нябыт?
Няхай сабе. Мне зоркаю там быць.

**Пераклад Вольгі ІПАТАВАЙ.**

# Збіраем матэрыялы для «Крыўскай (беларускай) міфалагічнай энцыклапедыі»

Хто не чуў пра грэцкія міфы?! Іх вывучаюць у школе, іх даследуюць навукоўцы ўсяго свету — так раскрываецца чароўная кніга грэцкай культуры мінулых тысячагоддзяў. У міфах старажытнай Элады знаходзяць і звесткі пра гістарычныя падзеі. Прыкладам, славуты нямецкі даследнік Г.Шліман, вывучаючы міф пра Адысея, зрабіў выснову пра рэальнае існаванне горада Троі. І сапраўды, археалагічныя раскопкі на месцы гэтага «міфічнага» горада ў Малой Азіі адкрылі рэшткі рэальнай Троі.

Колькі нашых старадаўніх паселішчаў не знойдзена! Але што казаць пра знаходкі нашых «трояў», калі ў былой савецкай навуцы нат не існавала паняцця беларуская міфалогія.

Пагартайце «Мифологический словарь» (М., 1991), складзены славутымі савецкімі вучонымі, эрудытамі, што ведаюць шмат старых і новых моў, што дасканала вывучалі міфалогію такіх народаў, пра якія мы нат не чулі.

Дзівішся іхняй эрудыцыі, а яшчэ больш іхняй абыякавасці да культуры «брацкага», суседняга ўрэшце, народа, які нат не згадваецца ў пераліку народаў і плямёнаў, чыя міфалогія пададзена ў слоўніку. Відаць, такое ўжо ўяўленне склалася ў вучоных пра нашу культуру: нічога ў іх, беларусаў, не было, апроч балота і лапцяў. Дык дзе ж там можа быць міфалогія — мо толькі якія-небудзь дамавікі ці лесавікі ды яшчэ чэрці, бо балота.

Наш жа народ атрымаў у спадчыну ад прашчураў шматтысячагадовую гісторыю і багатую міфалогію. Праўда, нашы гісторыя і міфы схаваны, зашыфраваны ў паданнях і легендах, у казках і песнях, у абрадах і гульнях, у назвах паселішчаў і нават у прозвішчах. Пара самім брацца і вылушчваць залатыя «гарэшкі». Ды і пачатак ужо зроблены — летась выйшла кніжка У.Васілевіча «Міфы Бацькаўшчыны». Ды і нашы публікацыі пад рубрыкай «Філалагічныя загадкі» даюць падставу спадзявацца на поспех.

Запрашаем навукоўцаў і аматараў падзяліцца вынікамі сваіх даследаванняў, развагамі. Мяркуецца, што артыкулы будуць падавацца паводле алфавіту. Ужо складваецца слоўнік будучага выдання, у які ўключана крыху больш за 150 слоў-тэрмінаў (загаловачных слоў-назваў). Прыкладам, на літары А і Б прапануюцца такія артыкулы: Авечае руна, Агонь, Адам, Арач, Асецьд, Асяніны, Атарыца, Аўлае, Баба, Баба Юга, Багач, Бай, Балабан, Баян, Белабог.

Вядома, ахоплена не ўся наша міфалогія, а таму чакаем вашых, шаноўныя чытачы, дапаўненняў і прапаноў, а таксама артыкулаў.

На пачатку — некалькі зацемак пра мяркуемыя артыкулы.

**Авечае руна.** Тэрмін прапануецца ўмоўна, дзеля таго, каб не збівацца на грэцкі міф, дзе апавядаецца пра здабыванне «залатога руна». Верагодна, у будучай «Крыўскай (беларускай) міфалагічнай энцыклапедыі» артыкул будзе называцца «Руна».

**Агонь.** Бог Агонь у нас, як і ў іншых арыйскіх народаў (у прыватнасці, старажытных індыйцаў), падаваўся за бога агню, хатняга агменю (ачага), а таксама за сына Бога Сонца. Але, безумоўна, наш божыч меў пэўныя асаблівасці. Сама перш яго адрознівалі ад іншага, таксама значнага агню, але больш высокага ў грамадскай, дзяржаўнай «вогневай» іерархіі, — Зніча. Другое, дзеля Агню ладзілі спецыяльнае месца — агмень. Трэцяе, дзеля розных выпадкаў (каб пагрэцца, прыгатаваць ежу па-за жытлом), каб не злоўжываць моцай Агню, каб не турбаваць яго «надарэмна», меўся яшчэ адзін від агню — яго называлі цяпло. Яго «высякалі» мысатам і крэменем.

**Агмень.** Гэты тэрмін — відаць, самы яркі прыклад, як звычайная, побытавая рэч, а дакладней, месца, набывае «міфалагічную» значнасць, праз сувязь, спалучэнне з «сакральным» Агнём. І як, знікаючы разам з рэальнай з'явай, агмень праходзіць у «разрад» міфічных, г.зн. таемных, уяўных, невядомых. Мяркуецца, што пра агменя расплавядаць будуць археолагі і этнографы.

**Адам.** Біблейскі, міфічны першы чалавек, здаецца, мае ў нашай міфалогіі некаторыя асаблівасці. Як вынікае з адной палескай легенды, «мясцовыя» Адам і Ева былі створаны не паасобку, а разам, накшталт сіямскіх блізнюкоў. А зросшыся яны былі пэўнымі інтымнымі, як мы цяпер называем, часткамі цела.

**Арач.** Тэрмін, як вынікае з пазначэння яго зорачкай (так звычайна вучоныя мовазнаўцы вылучаюць уяўныя, «вылічаныя» індаеўрапейскія карані вядомых нам слоў), умоўны, прыдуманы (прыкладам, вядомы Орач чэшскага падання). Але хтосьці мусіў правесці першую баразну. Верагодна, гэта зрабілі, як вынікае з згаданай ужо ў нашай газеце легенды, першыя кавалі, якіх у хрысціянскую пару назвалі Кузьма і Дзям'ян. Будзем спадзявацца, што спецыялісты падкажуць адпаведны тэрмін.

**Асець.** Спецыяльнае збудаванне ў гумнах нібы для сушкі снапоў толькі на першы погляд не мае нічога агульнага з нашай міфалогіяй. Але ж жніво заканчвалі ў гарачую летнюю пару і снапы ў гумны вазілі не дажджом. То сама просіцца думка, што асець ладзілі як месца, дзе складвалася ахвяра богу Агню, каб ён быў літасцівы і не знішчаў увесь летні даробак.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

*Рупліўцы*

# КАБ БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ

(Заканчэнне. Пачатак на с.2)

**— Хто Вашы сябры? Ці памяняліся яны з таго даперабудовачнага часу?**

— Яны застаюцца пры мне. Шмат хто — з далёкіх школьных і студэнцкіх гадоў. Некаторыя перада мной захоўваюць сваю «рускасць», хоць добра ведаюць маю цвёрдую пазіцыю. Зразумела, ім няпроста. Яны некалі адмовіліся ад беларускага слова, а зараз вяртацца — цяжкая справа. Я іх разумею і нават шкадую. Яны, як аказалася, многае страцілі. І бачаць гэта. У іх ужо нейкія цяжкасці ў жыцці. Маюцца на ўвазе маральныя, псіхалагічныя. А новыя сябры ўсе чыста беларускамоўныя.

**— Спадар Язэп, Вы пачалі актыўна ўдзельнічаць у беларускім руху яшчэ да перабудовы?**

— Я душой чакаў грамадскага абуджэння, бо бачыў, мы сапраўды жывём у нейкім перакрыўленым свеце. З радасцю адчуў першыя ўзмахі крылаў беларускага адраджэння. Многае перамянілася пасля 30 кастрычніка 1988 года. У гэты год я абараніў дысертацыю. Зняўшы гэтую цяжкую ношу, я адразу ж прычыніўся да беларускага руху. З таго часу непахісна з'яўляюся яго прыхільнікам.

**— Як Вы ставіцеся да тых нашых рупліўцаў, якія і ў камуністычны час пачувалі сябе някепска, мелі добрыя пасады, аклады, і цяпер у шэрагу самых рашучых «рэвалюцыянераў»-антыкамуністаў. Гэта нармальныя перадўтварэнні?**

— Сапраўды такія прыкмет-ныя асобы ёсць. Я лічу, з'ява трансфармацыі чалавека — станоўчая з'ява для дзяржавы. Падыходзіць да катэгорыі «кан'юнктурныя адраджэнцаў». Я маю вылучыць такую катэгорыю. Але не хачу адназначна прышываць ніякага ярлыка гэтым людзям. Гэта іх цудоўная здольнасць трансфармавацца ў новых умовах. У іх натура імклівая, рашучая, хочацца заўсёды быць наперадзе. Зразумела, што ў даперабудовачныя часы, каб дасягнуць пэўных нішаў у грамадстве, трэба было карыстацца і афіцыйнай, а значыць — расійскай мовай. Цяпер жа іх дзейнасць у беларускім руху пакуль што на карысць нашай дзяржавы. Толькі вітаць трэба іх беларускасць.

**— Я ведаю, што Вы маеце двое дзетак. Скажыце, калі ласка, пры Вашай звышзагружанасці працай у Акадэміі, ТБМ, БНФ, як Вы знаходзіце час, каб дапамагаць сваёй жонцы?**

— У горадзе стомленасць настае хутчэй — разумовая нагрузка цяжэй пераносіцца, плюс стрэсавасць, экалагічная забруджанасць. Таму адпачываць стараюся не менш шасці гадзін. І ў выхадны (рэдкія) устаю не пазней сямі—васьмі гадзін. Хацеў бы яшчэ паляжаць — дзеці не дадуць. У нашай цешчынай «хрушчоўцы», як у камуналцы, усё гуртам, не схаваешся. Найспрыяльнейшы час для маёй працы — калі Алесь з Лідачкай угамоньваюцца, вечарам позна. Люблю вельмі сям'ю, жоначку-расійку за яе людскасць, разуменне мяне і часам жорсткія кпіны, залатыя рукі. Так, любой жонцы хочацца бачыць мужа салідным, ды з добрай зарплатай і «опелем» ля пад'езда, з увагай. Разумею, што мае грамадскія справы сёння забіраюць шмат чаго ў сям'і. Ну што рабіць, калі так моцна люблю краіну сваю, шкада, што, на мой погляд, цікавая і карысная мая навуковая праца не можа, як гэта ў цывілізаваным свеце, забяспечыць нават персанальнае працоўнае прожыццё. Даводзіцца займацца нефармальным земляробствам, трусагадоўляй, самому рамантаваць паўзношаны абутак... І спраўляцца ўсюды. Веру, усё ж прыйдзе нармальны час і стане лягчэй. Адно ўсім нам трэба не чакаць лепшай долі, а стварыць яе — супольна, годна.

**— Напрыканцы яшчэ два пытанні. Якім Вы бачыце будучыню Таварыства беларускай мовы? І традыцыйнае: Вашы асабістыя творчыя планы?**

— Таварыства беларускай мовы нарадзілася з патрэбы. Калі беларуская мова займе нармальныя дзяржаўныя пазіцыі, шырока пусціць свае карані ў народзе, тады і знікне гэтая патрэба. Усе грамадскія арганізацыі ўзнікаюць пры неабходнасці. Час выклікае іх.

Што да маіх творчых планаў, то задумак шмат. Найперш гэта падрыхтоўка доктарскай дысертацыі. Хачу зрабіць яе толькі на беларускай мове. На міжнародным конкурсе, аб'яўленым фондам Сораса, мая праца атрымала грант, аказалася ў шэрагу пераможцаў. Гэта з'явілася доказам, што я на працы, як з мяне кпілі незычлівыя, займаюся не толькі «нефармальнай» справай. Наадварот, я і адраджэннем імкнуся ўсімі сіламі займацца, і даказаць, менавіта пераканаць уласным вопытам, што я і на прафесійным «полі» раблю не менш за некага. Шмат хто пасылаў заяўкі на гэты конкурс, а прайшлі адзінкі.

Яшчэ хачу дадаць, што сам зусім нядаўна даведаўся: мой прадзед, Пётра Стапановіч, быў кнігавыдаўцом у Віленскай друкарні. І я займаюся распрацоўкай алфавіту на лацінскай аснове, бо лічу, што толькі так можна прыблізіць графічнае адлюстраванне мовы найбольш да гукавой ідэальнай формы. Даводзіцца шмат працаваць і над слоўнікамі.

**— Плёну Вам у працы і творчых поспехаў.**

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Святочны каляндар беларусаў

## «Красавік ваду віруе, вярбу зелянее, зямлю красуе»

Першыя краскі, росквіт зелені далі назву чацвёртаму месяцу года, другому месяцу вясны, прыметы якога гучаць у дасціпных народных выслоўях: «Сонейка з красавіцкага ўзгорка да лета коціцца», «Красавіцкі шпак — вясны спявак», «Красавік багаты вадою, а кастрычнік півам», «Першы красавіцкі дождж — воз залаты каштуе», «У красавіку дождж праходзіць, сонца грэе, зямля прэе — тады ўсякі збагацее», «Красавік у полі чорны, а ў бары — белы», «Мокры красавік — добрая ралля», «Красавік з краскамі, а травень з травою».

На пару росквіту прыроды прыпадаюць важнейшыя нацыянальна-самабытныя святы беларускага календара: Камаедзіца, Звеставанне, Хатнік, Вербніца, Вялікдзень, Ваджэнне і пахаванне Стралы, прысвечаныя татэмнаму продку, прылёту птушак, сустрэчы Новага сонечнага года, засцярозе ад маланкі.

**1** (субота). **Прав**. *Памінанне нябожчыкаў.*

**Ун**. *Субота Акафісту.*

**Народны каляндар**. *Дар'я Вяснoўка* — свята заканчэння позневесновых відаў працы: ткацтва (хавалі кросны і адбельвалі палотны), вырабу печыва з выявамі плуга, бараны, сявенькі, што бралі на засеўкі пасля Звеставання.

**2** (нядзеля). У праваслаўных, католікоў і уніятаў *Вялікі пост.*

**4** (аўторак). **Народны каляндар**. *Васіль Сонечнік* (па некаторых крыніцах — *Васіль Сланечнік*), які «са стрэх, крыш і елак ледзяшы збівае, а агloблі ў санках зварочвае».

**6** (чацвер). **Прав**. *Перадсвяцце Дабравешчання.*

**Народны каляндар**. *Камаедзіца* — старажытнае татэмнае свята ўшанавання жывёлы — продка-мядзведзіцы. Першая частка назвы пахадзіць ад «камы» (таўканіца з гароху ці бульбы) — любімай стравы мядзведзя-вегетарыянца, якая разам з іншымі яго любімымі стравамі — аўсяным кісялём, сушаным рэпікам, мядовай сытой у вялікай колькасці падавалася ў гэты дзень да абедзеннага святочнага застолля. Пасля багатага абеду і старыя, і малыя са смехам, жартамі, але ўрачыста і доўга, крэкчучы, пераварочваліся з боку на бок, кiруючыся, адлаведна, прынцыпам сімільнай магіі, што падобнае вызывае падобнае, дапамагалі продку ўстаць з бярлогі, прачнуцца ад зімовай спячкі. Такім прыгожым звычаем сустракалі свайго «мядзведзюхну-бацьку» на паўночна-ўсходніх землях Беларусі, дзе ў сярэдняевеччы і ўзнікла знакамітая Смаргонская мядзведжая акадэмія. Апошні раз у натуральных умовах Камаедзіца зафіксавана і апісана ў апошняй чвэрці XIX ст. у Бягомлі П.Шэйнам. Ушанаваннем мядзведзя-продка чырвонай стужачкай праходзіць па ўсёй традыцыйнай культуры беларусаў, але асабліва выразна выяўляецца ў жніўных, восеньскіх, калядных і вясельных песнях, казках, паданнях, легендах, былічках і прыказках. Напрыклад, у вясельнай песні гучыць, што маладую вязуць як «мядзведзіцу калматую, касматую», — г.зн. ідзе багацце ў дом маладога. А ўжо зусім па-чалавечы выглядае мядзведзь у жніўнай песні:

*Я пад борам жыта жала,*
*Пад мяжою дзіця клала.*
*Мядзведзь з лесу выбягае:*
*— Памагай Бог, маладзічка,*
*Чаму плача тваё дзіцятачка?*
*— Мядзведзюхна, мой бацюхна!*
*Вазьмі яго на ручанькі,*
*Нясі яго ў дуброваньку,*
*Падой чорну карованьку,*
*Ой, чорну падласую,*
*Майго бацькі ўласную.*
*— Ой, рад бы я панесці,*
*Да баюсь, каб не ўкусіці,*



*Ой, рад бы я побач сесці,*
*Ды баюся, каб не з'есці.*
*Ой, рад бы пакалыхаці,*
*Ды баюся, каб не ўдраці.*

У хрысціянскія часы з'явілася праваслаўная назва свята Благавеснік (ад свята наступнага дня — Благавешчання) — з-за шматлікіх забарон у гэты дзень (нельга прасці, ткаць, араць, рэзаць, шыць і г.д.). У Столінскім раёне можна пачуць грознае: «Не так бойся Благавешчання, як яго бацькі Благавесніка».

**7** (пятніца). **Прав**. *Дабравешчанне (Благавешчанне, Звеставанне) Прасвятой Багародзіцы.*

**Народны каляндар**. *Звеставанне* — гэта, калі «дзеўка касу не пляце, птушка кубло не ўе». У некаторых, больш паўночных раёнах, мела назву Гуканне Вясны, у заходніх раёнах больш вядома як дзень прылёту буслоў, калі з цеста пяклі выявы буслаў лапы, так званыя галёпы. Верылі, што калі пабачыш бусла ў палёце, то будзеш «лёгкім на ногі». Найвялікшым злачынствам лічылася пакрыўдзіць птушку. Вядомы шматлікія паданні аб тым, як бусел спаліў хату, дзе разбурылі яго кубло; чаму ён збірае жаб, змей; што ён былы чалавек і інш. Дзеткі звярталіся да лётаючага бусла з заклікамі: «Бусел, бусел, на табе галёпу — дай мне жыта капу», «Бусел, бусел клекатун, цягні бабу за каўтун».

Па Звеставанні прадказвалі надвор'е на ўвесь год: снег — мокрае лета і многа грыбоў; сонца — засушлівае лета і марозная восень. Верылі, што ў гэты дзень «вясна зіму пабарола»: «Пакроў не лета, Звеставанне — не зіма». У шматлікіх благавешчанскіх вяснянках спявалася:

*Благаславі, маці,*
*Вясну заклікаці,*
*Зіму праважаці,*
*Лета дачакаці.*
*Вылеці, сівая галачка,*
*Вынесі залатыя ключы,*
*Замкні халодную зімачку,*
*Адамкні цёплае лецейка.*

**8** (субота). **Прав**. *Адданне свята Благавешчання. Сабор арханёла Гаўрыіла.*

**Ун**. *Субота Лазара.*

**9** (нядзеля). **Кат. Ун**. *Уваход Ісуса Хрыста ў Іерусалім (Вербніца).* Да кожнага дня бягучага тыдня (ад Вербніцы да Вялікадня) прыбаўляецца слова «вялікі». Напрыклад: *Вялікі панядзелак, Вялікі аўторак* і г.д. На *Вялікую пятніцу* прыпадае строгі пост.

**14** (пятніца). **Народны каляндар**. У гэты дзень трэба было ўсім хлусіць, маніць адзін аднаму, каб заблытаць Хатніка, які, быццам бы, у гэты дзень прачынаецца ад зімовай спячкі. Відавочна сувязь з днём першага красавіка, калі, паводле сучаснай традыцыі, ашукваюць адзін аднаго.

**16** (нядзеля). **Прав**. *Уваход Ісуса Хрыста ў Іерусалім (Вербніца).*

**Народны каляндар**. *Вербніца* — свята ў гонар першай зеляніны, калі набрынялі пупышкі ў найбольш жацціздольнага на Беларусі дрэва — вярбы, спадарожніцы першых рассяленняў па берагах нашых рэк. З прыходам хрысціянства яе ўрачыста пачалі асвячаць за тыдзень да Вялікадня ў царкве. Галінкамі вярбы тройчы білі па плячах усіх сустрэчных, дзяцей, жывёлу з магічнымі заклічкамі-прыгаворамі, каб перадаць сілу расліны ўсяму жывому.

*Вярба б'е — не я б'ю,*
*За тыдзень — Вялікдзень.*
*Будзь здароў, не ўмірай,*
*Вялікадня дачакай —*
*Ужо недалечка*
*Чырвона ячка.*
*Будзь прыгожы, як вясна,*
*Будзь здаровы, як вада.*
*Будзь багаты, як зямля.*

Дзяўчаты і хлопцы білі незнаёмых сустрэчных супрацьлеглага полу, каб даведацца імя будучай жонкі ці мужа. Галінкі дрэва з Вербніцы на ўвесь год заставаліся сімвалам і здароўя, і гаспадарчага дабрабыту, для чаго з'ядалі дзевяць пупышак, падмешвалі ў ежу жывёле, падмешвалі да столі ў хаце і хляве. Імі выганялі жывёлу першы раз у поле на Юр'я, білі хворых з прыгаворамі: «Вярба б'е — не я б'ю, зда-роўе ў косці, хвароба ў лес».

**17** (панядзелак). **Кат. Ун**. *Другі дзень Вялікадня.* Усе дні гэтага тыдня называюцца «светлымі»: Светлы аўторак, Светлая серада і г.д.

**20** (чацвер). **Народны каляндар**. *Чысты чацвер.* Сімвалізаваў ачышчэнне перад пачаткам веснавых палявых работ. У гэты дзень усё мылі і чысцілі, прыбіралі хату, падворак, спальвалі ўсё старое, мыліся самі і мылі жывёлу, асабліва коней і вымя каровам, купаліся ў рэчцы, а калі быў лёд, то і ў палонцы; малявалі на аканіцах і вушаках хлявоў засцерагальныя крыжы ад варожай сілы, а голая гаспадыня тройчы абыходзіла і абсыпала зернем хату, каб нячысцік не мог трапіць у яе. На цэнтральным Палессі імкнуліся зрабіць засеўкі на Чысты чацвер, каб збожжа вырасла чыстым, без пустазелля.

**22** (субота). **Народны каляндар**. *Дзень прыгатавання абрадавых страў да Вялікадня,* якія называлі «паскай»: круглы хлеб з цеста, а часам, як у Нараўлянскім раёне, з сыра і масла, крашаныя яйкі, хрэн, мёд, рыбу. Лік страў быў магічны: тры, сем, дзевяць, а з прыходам хрысціянства — дванаццаць. Галоўным прадметам клопатаў прыгатавання да Вялікадня былі крашанкі — пафарбаваныя ў шалупінні цыбулі яйкі — і пісанкі — яйкі, па-мастацку аздобленыя магічна-сімвалічнымі арнаментамі і малюнкамі.

*(Заканчэнне будзе.)*

**Вядуць: народны каляндар — Васіль ЛІЦВІНКА; царкоўны каляндар — Ірына КРЭНЬ.**

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Гэты нумар газеты вы атрымаеце незадоўга да 1 красавіка. Таму якраз з гэтага нумара мы адкрываем новую рубрыку — «Прэса-куламеса». Памылкі друку — з'ява звычайная і амаль невынішчальная. Мы не звяртаем на яе ўвагі. А часам варта было б угледзецца ў выпадковыя «вынаходніцтвы» і «адкрыцці» прэсы. Каб не крыўдавалі на нас рэдакцыі працытаваных выданняў, самакрытычна пачнём з сябе. А да чытачоў — прапанова: дасылайце матэрыялы ў новую рубрыку! З газет — рэспубліканскіх, гарадскіх, раённых, шматтыражных, з часопісаў, бюлетэняў, альманахаў. Са сваімі дасціпнымі каментарамі і абавязкова — са спасылкай на крыніцу. Няблага было б даслаць непасрэдна выразкі.

Спадзяёмся, што новая рубрыка паспрыяе ўдасканаленню рэдактарска-карэктарскай справы, а галоўнае — даставіць вам некалькі вясёлых хвілін.

## Прэса-куламеса

***НОВАЯ ПРАФЕСІЯ***

«Выдавецкую базу «Зрока» скупіла нейкае таварыства з рускай абрэвіятурай РЕМСПИЛ (займаецца манжатом сантэхнікі)».

«Наша слова».

***ВАДЗІЦЕЛЬ АТРЫМЛІВАЕ НАТУРАЙ...***

«Дык вось, у пераводзе на нашыя грошы, вадзіцель аўтобуса там атрымлівае 25,1 млн.рулёў...»

«Літаратура і мастацтва».

***САПРАЎДЫ НААДВАРОТ...***

«Усё якраз наадварот: часцей за ўсё размова ў спакойнай манеры, спроба зразумець пункт погляду субясedніка прыводзяць да нейлепшых вынікаў».

«Звязда».

***ШТО ЭКСПАРТУЕ НАШ ПАРЛАМЕНТ?***

«Экспарты парламента... тым часам лічаць...»

«Сталіца».

***ДАЦКІ ПРЫНЦ ПА-БЕЛАРУСКУ***

«Крок-Прынц Фрэдэрык...»

«Бярозка».

***СЕНСАЦЫЯ ЭТНАГРАФІІ***

«Такім чынам, гэта была агульная назва усіходніх славянаў...»

«Літаратура і мастацтва».

***НАПАЛЕОН ОРДА БЕССМЯРОТНЫ!***

«Так пісаў у варшаўскім «Тыгодніку ілюстраваным» за 6 мая 1971 года наш славуты зямляк Напалеон Орда».

«Народная газета».

## Пародыі

***Георгій ЮРЧАНКА***

## Сыраежачка

*Ані кроплі не сумна мне,*
*Калі я — падбярозавік...*
**Віктар СТРЫЖАК.**

Эх, надзену порткі клёш
Кармазінавы.
Я не рыцар, але ўсё ж —
Падасінавік.

Мазгавалі хлопцы, як
Быць цвярозымі.
Толькі я для іх нязнак, —
Падбярозавік.

Ля звярэджанай сасны
Схопяць дрыжыкі.
Ціха тупаць да вясны
Згодны рыжыкам.

Пра спакусы забываць
Буду зранку я.
На паўгода можна стаць
Паддубянкаю.

А любоў — такой бяды! —
Пройдзе сцежкаю.
Дык застаца б назаўжды
Сыраежкаю.

# Крыжаванка-пераклад



**Па гарызанталі:** 7. Торжественно. 8. Разврат. 9. Вверху. 10. Щенок. 11. Богатырь. 14. Созерцание. 17. Честь. 18. Около, вокруг. 19. Решённый. 21. Очередная. 25. Флаг. 26. Иметь. 29. Студёный. 30. Призрак. 31. Пылко. 32. Находка. 33. Клеёнчатый.

**Па вертыкалі:** 1. Красавец. 2. Искренне. 3. Череда (ботанич.). 4. Гроздь. 5. Угорь. 6. Желудок. 12. Сахарница. 13. Внешность. 15. Деньги. 16. Внимание. 20. Растительный. 22. Итоговый. 23. Отвратительная. 24. Солгать. 27. Монахи. 28. Стража.

**Падрыхтавала Людміла ШНІП.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 748

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 6850 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 27.03.1995 г. у 15 гадзін.